PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (1944) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 15 ЖНІЎНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Там, дзе голле мыюць вербы ў яснай глыбіні...* **Фота М. Гайдука**

## ПРЫЗАБЫТЫЯ ПАРТЫЗАНЫ

### ПАДПОЛЬШЧЫКІ ВЕРЫ МАСЛОЎСКАЙ І ГЕРМАНА ШЫМАНЮКА

21 мая 1923 года, пасля двух гадоў следства і васьмі дзён працэсу, Акруговы суд у Беластоку прысудзіў дваццаць беларусаў, членаў падпольнай арганізацыі, агулам да 90 гадоў цяжкай турмы. Падсудныя атрымалі наступныя тэрміны зняволення: Ш. Мацяевіч — пажыццёвая цяжкая турма, Я. Іванюк — 10 гадоў, М. Вольф — 8 гадоў, В. Маслоўская і пасол С. Баранаў — 6 гадоў, А. Станкевіч — 5 гадоў, Э. Матэйчык і К. Матэйчык — 4 гады, М. Грыгас, А. Гораш, Ц. Барташук, Т. Трыпуз і Ст. Жабінскі — 3 гады, Г. Каляда, К. Жамойда, А. Парук, Я. Захарчук, А. Нічыпарук, А. Захожны і Д. Стасюк — 1 год. З 25 асоб абвінавачванні былі зняты. Паводле суда ўсе прыгавораныя былі *членамі падпольнай арганізацыі, мэтай якой было далучэнне ўсходняй часткі Польшчы да БССР.* Самі „злачынцы" называлі сваю арганізацыю „Брацтвам Сялян Беларусаў".

### КРЫНІЦЫ ПАДПОЛЛЯ

Палітычныя і сацыяльныя ўмовы жыцця, у якіх апынуліся беларусы ў межах Польшчы пасля падпісання Рыжскага дагавора, не задавальнялі беларускіх палітычных лідэраў. Іх імкненні стварыць адзіную незалежную Беларускую дзяржаву не здзейсніліся. Сярод арыентацый і груповак, што стаялі ў апазіцыі да палітыкі улад Менска (а фактычна Масквы) і Варшавы і мелі свой погляд на будучыню Беларусі, буйнейшую ролю адыграла партыя беларускіх эсэраў. З яе дапамогай на тэрыторыі г. зв. Заходняй Беларусі паўставалі падпольныя партызанскія згуртаванні. Мэтай іх стала барацьба супраць польскага панавання на беларускіх землях. Партызанскі рух, які меў даволі моцную падтрымку ковенскай Літвы і быў праўдападобна ў вялікай ступені фінансаваны нямецкім урадам, з неадналькавай напружанасцю дзейнічаў на тэрыторыі ўсёй Заходняй Беларусі. Галоўнымі яго арганізатарамі і ідэолагамі на Гродзеншчыне і Беласточчыне былі Вера Маслоўская (Вера Матэйчык, з 1920 г. Маслоўская, з 1927 г. — Карчэўская) і Герман Шыманюк (псеўданім атаман Скамарох). Вясковая настаўніца беларускіх школ і рээмігрант з далёкай Масквы, ураджэнцы Супраслі і Грабаўца, што ля Дубічаў-Царкоўных на Беласточчыне, зразумела, не былі ў гэтым адзінымі. Іх ангажаванасці ў беларускай палітыцы паспрыяла вучоба, сутыкненні з беларускімі палітычнымі арганізацыямі і... патрэбнасць часу.

### АРГАНІЗАЦЫЯ

Напачатку канспірацыйная дзейнасць арганізатараў руху зводзілася да асабістых кантактаў з людзьмі ў тэрыторыі, прычым найчасцей выкарыстоўваліся дзеля гэтага асабістыя знаёмствы. Дзякуючы намаганням Шыманюка і Маслоўскай, неўзабаве рух набраў формы падпольнай арганізацыі. Вялікай падтрымкай гэтаму былі цесныя сувязі са штабам капітана Хмары-Разумовіча ў мястэчку Мэрач, які быў адказным за стварэнне партызанскіх атрадаў, між іншым на Гродзеншчыне і Беласточчыне. Адтуль людзі Шыманюка паступова пачалі прывозіць у схованкі ў Белавежскую пушчу пісталеты, боепрыпасы, грошы.

Агульную колькасць членаў „Брацтва Сялян Беларусаў" устанавіць цяжка. Між іншым таму, што гэта была падпольная арганізацыя і да нашых часоў не захаваліся пісьмовыя крыніцы аб яе дзейнасці. Тым не менш некаторыя лічаць, што партызанаў было звыш 200 чалавек. У большасці — беларускія сяляне з вёсак: Грабавец, Дабрывада, Чэхі-Арлянскія, Вітава, Малочкі Бельскага павета. У арганізацыі дзейнічалі таксама прадстаўнікі іншых прафесій: настаўнікі, унтэр-афіцэры запасу расейскай арміі, працаўнікі чыгункі, лекары. Дзейнасць „Брацтва" падтрымоўвалі беларускія паслы Сейма Рэчыпаспалітай: Сяргей Баранаў і Шымон Якаўлюк.

Ужо ў пачатку дзейнасць арганізацыі мела вайсковыя рысы. На карысць гэтага сведчаць даволі частыя кантакты атрада Шыманюка са штабам у Мэрачы і кантрабанда зброі праз літоўска-польскую мяжу. У прынцыпе, аднак, вайсковая дзейнасць тады яшчэ не вялася. Маслоўская і Шыманюк засяродзіліся на пашырэнню канспірацыйнай сеткі, пошуках спрыяльных для справы людзей у паасобных вёсках, збіранню інфармацыі, агітацыйнай дзейнасці.

Вельмі цікавым эпізодам было выданне газеты „Беларускі Партызан". Паводле даведкі ў часопісе, рэдактарам першага яго нумара быў Герман Шыма-

☞ *Працяг на стар. 4*

## ІНШЫЯ, АЛЕ НЕ ЧУЖЫЯ

**У канцы ліпеня з двухдзённым візітам на Беласточчыне пабывалі прадстаўнікі Канцылярыі Прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польскай і Пасольства Рэспублікі Беларусь. Мэтай паездкі, якая з'яўляецца вынікам нядаўняга візіту Прэзідэнта Леха Валэнсы ў Беларусь, было пазнаёміцца з праблемамі беларускай нацыянальнай меншасці. 28 ліпеня г.г. шэф Бюро палітычнай абслугі Прэзідэнта РП міністр Анджэй Закжэўскі, супрацоўнік гэтага Бюро Пётр Лаеўскі і пасол РБ Уладзімір Сянько сустрэліся ў рэдакцыі „Нівы" з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый, згуртаваных у Беларускім саюзе.**

Размовы, якія вяліся падчас двухгадзіннага спаткання, датычылі нявырашаных дагэтуль праблемаў нашага асяроддзя. Спачатку Сакрат Яновіч прадставіў гасцям ідэю стварэння ў Беластоку Цэнтра беларускай культуры, які вёў бы даследчыцкую, выдавецкую і папулярызатарскую дзейнасць і быў бы інтэлектуальнай базай для беларускага руху. У ходзе дыскусіі ўзнімаліся таксама пытанні школьніцтва, культуры і эканомікі. Алег Латышонак звярнуў увагу на спадзяванні беларусаў, якія лічылі, што ў дэмакратычнай дзяржаве іх праблемы будуць вырашацца дэмакратычным спосабам. На жаль, гэтыя надзеі не здзейсніліся. Атмасфера ва ўладах на Беласточчыне не спрыяе вырашэнню многіх нашых спраў. Напрыклад, ініцыятыва стварыць саюз усходніх гмінаў не магла ажыццявіцца таму, што атмасфера пасля няўдалага візіту міністра К. Скубішэўскага ў Менск восенню 1990 г. была непрыхільная. Менавіта тады прагучэлі галасы, што арганізаваны саюз усходніх гмінаў ставіць сабе за мэту адлучэнне Беласточчыны ад Польшчы. Такія выказванні моцна напалохалі гмінных чыноўнікаў і ў выніку не давялі да рэалізацыі ініцыятывы. Паводле Яўгена Міклановіча, такая самаўрадавая структура магла б вырашыць многія эканамічныя і экалагічныя праблемы. Аб'яднаныя гміны маглі б паправіць інфраструктуру сваёй тэрыторыі, пабудаваць заводы па перапрацоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў, актывізаваць вёскі ва ўсходняй частцы Беласточчыны.

Аб клопатах са стварэннем беларускага даследчыцкага цэнтра ў Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку гаварыў Антон Міроновіч. Праект такой установы даўно ўжо перададзены універсітэцкім уладам, але дагэтуль няма ніякага водгуку. Ян Чыквін выказаў пераканане, што ў такіх канкрэтных справах, калі адміністрацыя абыякава ставіцца да нашых ініцыятыў, неабходныя палітычныя рашэнні вышэйшых дзяржаўных органаў.

Міністр Анджэй Закжэўскі, паслухаўшы наракання нашых дзеячоў, сцвердзіў, што мы надта фетышызуем ролю дзяржавы ў вырашэнні прабле-

☞ *Працяг на стар. 2*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W Budapeszcie wszystkie niechciane pomniki zgromadzono w jednym miejscu.(...)*
*Od 1 sierpnia za jednego dolara (99 forintów) będzie można obejrzeć stłoczonych na powierzchni 2,5 tys. metrów kwadratowych bojowników o wolność, bohaterów Armii Czerwonej, wodzów rewolucji.(...) To było proste. (...) Każda dzielnica przedstawiła Radzie Miasta listę pomników, które drażnią uczucia mieszkańców. Było ich w sumie 50. Do 31 grudnia 1991 roku miały zniknąć. I zniknęły.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 173)*

**Мадзьяры вырашылі праблему з нежаданымі помнікамі культурна і спраўна. І яшчэ на гэтым заробяць. Але калі нешта такое зрабіць у Беларусі, спатрэбіўся б не гарадскі пляц, а цэлы калгас. Але, відаць, такога не будзе. І то зусім не таму, што турысты з доларамі ў Беларусь наогул не прыязджаюць.**

* * *

*Akcja wymiany pieniędzy w Rosji była — wbrew pierwszym wrażeniom — dobrze przygotowana, a jej głównym celem było oddzielenie gospodarki rosyjskiej od postradzieckiej „strefy rublowej". (...)*
*Interes ten zasadza się na zlikwidowaniu „strefy rublowej", oddzieleniu gospodarki rosyjskiej za pomocą własnego pieniądza od gospodarek innych krajów, które dotychczas nie zaczęły nawet tej reformy, z takimi oporami wprowadzanej w Rosji. (...) „Strefa rublowa" przestała istnieć. Stąd bierze się ostra reakcja oficjalnych osobistości w innych republikach — wolny dostęp do rynku rosyjskiego jest jeśli nie odcięty, to na pewno poważnie zagrożony.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 174)*

**Абмен грошай у Расеі, можна сказаць, стаўся больш важкім фактам на шляху да суверэнізацыі былых рэспублік былога СССР, чымсьці ўсе папярэднія дэкларацыі аб суверэннасці ці незалежнасці. Расея дае адназначна зразумець, што не хоча іншых рэспублік „пры сваім стале". Але ці зразумеюць гэта ў Менску? Мы сумняваемся.**

* * *

*Dopiero po kilku dniach okazało się, że decyzja o wymianie pieniędzy w Rosji była kompletnym zaskoczeniem dla kierownictwa Narodowwgo Banku Białorusi. Jego prezes Stanisław Bogdankiewicz przyznał, że jeszcze w przeddzień wymiany jego bank — na własną prośbę — otrzymał z Rosji dziesięć miliardów rubli. Wszystkie rzecz jasna w banknotach podlegających wycofaniu. „Nie wiedziałem, co oni mają na myśli — tłumaczył się Bogdankiewicz w gazecie „Zwiazda" — myślałem, że zwracam się do przyjaciół".*
*(Gazeta Wyborcza, nr 176)*

**Сярод галодных няма сяброў.**

* * *

*Ofiarą skorumpowanych policjantów padają przyjezdni z b. ZSRR, bezradni wobec polskiej „władzy". W Suwałkach trwa śledztwo przeciwko dwóm policjantom z Sejn, którzy wymuszali haracz od turystów litewskich.*
*Dwaj funkcjonariusze z komisariatu kolejowego w Nowym Sączu zażądali pieniędzy od Ukrainek pod groźbą cofnięcia im wiz. Jednemu zamiast pieniędzy wystarczyło kilka butelek koniaku. Drugi domagał się okupu w „naturze".*
*Policjanci z drogówki warszawskiej zażądali 10 mln zł. za oddanie zatrzymanego prawa jazdy.*
*Dwaj policjanci olsztyńscy zażądali od pary sklepikarzy — jako łapówki — grzybów i mrożonych jagód „na gwiazdkę".*
*(Gazeta Wyborcza, nr 176)*

**І падумаць толькі, што ўсё гэта робіцца людзьмі, пакропленымі свянцонай вадой. Сапраўды, магутнасць Сатаны неабсяжная.**

* * *

*Ciekawym przypadkiem do przeprowadzenia badań porównawczych może stać się osoba Tadeusza Modesta Zarębskiego, który ma spore szanse na miejsce w ławach poselskich. Na razie dzielny ten obywatel kandyduje z ramienia Sojuszu Lewicy Demokratycznej. Nie byłoby w tym nic dziwnego, gdyby nie fakt, że jeszcze niedawno Tadeusz Modest Zarębski był przewodniczącym komisji rewizyjnej w białostockim Porozumieniu Centrum.*
*(...) Przypadek pana Modesta świadczy o tym, jak intensywna akcja dekomunizacyjna wpływa na umysły dekomunizatorów.*
*(Gazeta Współczesna, nr 146)*

**Мы з такімі выпадкамі спаткаліся ўжо пару ладных гадоў таму ў сваім асяроддзі. Прытым справа закранала тут не палітычныя схільнасці (малаважныя і пустыя), а татальны светапогляд: чалавек раней шчыра аддана займаўся змаганнем з рэлігіяй („опіумам народа"), а потым яму перакруцілася, і ён звышшчыра і звышаддана заняўся хрысціянізацыяй раней настваранных атэістаў. Ну і што? Анічога. Чалавек мусіць мець занятак, а прынамсі — hobby.**

* * *

*Tłumy gołdapian oglądały w minioną sobotę niecodzienny mecz piłki nożnej. Na miejscowym stadionie zmierzyły się reprezentacje księży i liberałów. Drużyna miejscowego dziekanatu, prowadzona przez księdza prałata Aleksandra Smędzika przegrała 4:1. Wysoką formę zademonstrował Donald Tusk z KLD, strzelając dwie bramki.*
*(Kurier Poranny, nr 146)*

**Вядома, што будзе далей. Узнікне парафіяльная футбольная ліга, а потым пойдзе тое, што і ў цяперашнім футболе:** niedozwolony doping, sprzedane mecze i awantury parafian-kibiców. O, Jezus Maryja!

## З мінулага тыдня

Пад канец ліпеня над **Палессем прайшоў атлантычны цыклон.** Толькі 23 і 24 ліпеня выпала 110 мм асадкаў, у выніку чаго вада ў рэках Прыпяць і Гарынь паднялася на пяць метраў. У Гомельскай вобласці стыхія пашкодзіла 1245 дамоў і затапіла 126 тысяч гектараў палёў, а ў Брэсцкай — 117 тысяч гектараў. У Століне вада заліла амаль палову дамоў, а ў навакольных вёсках — амаль усе.

**Улады Беларусі** забаранілі жыхарам іншых рэспублік былога СССР прабываць у Гродне без папярэдняй рэгістрацыі ў органах унутраных спраў горада, а таксама патрабуюць ад прыезджых завяраць у мясцовых натарыусаў вадзіцельскія правы. Усе гэтыя інавацыі не датычаць удзельнікаў экскурсій і шафёраў падчас службовых паездак. Уведзеныя абмежаванні былі выкліканы масавым наплывам жыхароў паўднёвых рэспублік, якія займаюцца гандлем і іншай, часта праступнай дзейнасцю.

**Кандыдаты ад Канфедэрацыі незалежнай Польшчы**, якія будуць балаціравацца на Беласточчыне, нанеслі візіт Архіепіскапу Беластоцкаму і Гданьскаму **Саве**. У сустрэчы, якая адбылася 5 жніўня, удзельнічалі кандыдаты: у Сенат — **Генрык Казакевіч** і ў Сейм — **Тамаш Шчапанскі** і д-р **Юзэф Залеўскі**.

У Беластоку прабывае **група дзяцей з Магілёўскай вобласці**. Сорак пяць дзяўчынак і хлопцаў падчас месячнага знаходжання на Беласточчыне пройдуць медыцынскае абследаванне (яны з чарнобыльскай зоны), наведаюць Варшаву і Белавежу, пазнаёмяцца з гісторыяй і помнікамі Беластока. Арганізатары пабыўкі — беластоцкая „Салідарнасць", Кураторыя асветы і выхавання і Управа горада.

Закончыліся ўжо здымкі да тэлевізійнага спектакля **„Прарок Ілья"** паводле аднайменнай п'есы беластоцкага драматурга **Тадэуша Слабадзянка**. Галоўную ролю ў спектаклі, які будзе можна паглядзець у Тэлевізійным тэатры восенню, выконвае вядомы кракаўскі акцёр **Ежы Трэля**. На працягу тыдня сюжэты да спектакля здымаліся ў Кнышынскай пушчы, Азяранах, Паўднёвым Востраве і Санніках, а сцэны ў доме прарока — у Вершаліне, пасёлку заснаваным у трыццатых гадах сектантам **Ільёю Клімовічам.**

**Сямяцічы** гатовы прыняць астанкі апошняга караля Польшчы **Станіслава Аўгуста Панятоўскага**, якія пакояцца ў падзямеллі касцёла ў Волчыне на Гродзеншчыне. Пра гатоўнасць заявіла дэлегацыя горада падчас святкаванняў 55 гадавіны пераносу праху манарха з Пецярбурга ў Волчын. Кароль Станіслаў Аўгуст прынамсі двойчы ў сваім жыцці наведаў Сямяцічы.

Аўтатранспартныя фірмы ПКС з Беластока і „Аўтапарк" з Ваўкавыска адкрылі **міжнародную аўтобусную лінію Беласток** — Кузніца-Беластоцкая — Бераставіца — Свіслач — Поразава — **Ваўкавыск**. Аўтобусы з аўтавакзала ў Беластоку ад'язджаюць у серады і пятніцы а гадз. 19.10, у чацвяргі і суботы — а гадз. 8.00, а з аўтавакзала ў Ваўкавыску — у серады і пятніцы а гадз. 4.00, у чацвяргі і суботы — а гадз. 16.10.

**Дыфтэрыт зноў пагражае.** Санэпідстанцыя заклікае ўсіх тых, якім за 20 гадоў і якія выязджаюць у Расію, Беларусь, Украіну або кантактуюцца з турыстамі з Усходу прышчапіць дыфтэрыт (błonica). Польшча дагэтуль не мела праблемаў з гэтай хваробай. На працягу апошніх 18 гадоў медыцынскія службы зафіксавалі толькі тры выпадкі захворвання, а ў гэтым годзе — ужо чатыры. Прычына гэтаму — эпідэмія ў Расіі (асабліва ў Санкт-Пецярбурзе, Маскве і Калінінградзе). Павышаная колькасць захворванняў наглядаецца таксама на Украіне, у Беларусі, Латвіі, Літве і Нарвегіі. У Беластоку працуе дадатковы медпункт, у якім можна прышчапіць дыфтэрыт. Змяшчаецца ён у інфекцыйным шпіталі пры вул. Журавяй (Klinika Chorób Pasożytniczych i Neuroinfekcji, blok E, w godz. 11-20).

**Славацкія ўлады** загадалі ліквідаваць усе інфармацыйныя дарожныя надпісы на венгерскай мове на поўдні краіны. У гэтай частцы Славакіі пражывае шматлікая група насельніцтва венгерскай нацыянальнасці.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- Кандыдаты ад Беларускага саюза ў Сейм Рэчыпаспалітай.
- Новае Беразова і Махнатае — узор гаспадарнасці і не толькі.
- Горад і беларускія сяляне.
- Непраўдападобная гісторыя дзядзькі Андрэя.




# ІНШЫЯ, АЛЕ НЕ ЧУЖЫЯ

*Працяг са стар. 1*

маў беларускай меншасці, што дзяржава з прычыны фінансавых цяжкасцяў не ў стане задаволіць усе патрэбы, і таму раіў ствараць фонды, шукаць дапамогі ў Менску. Звярнуў ён таксама ўвагу на прынцып узаемнасці ў дачыненнях паміж дзяржавамі, які не застаецца без уплыву на фінансаванне нацыянальных меншасцяў. Пасол Уладзімір Сянько, які станоўча адносіцца да нашых ініцыятываў і патрэбаў, паясніў, што прынцып узаемнасці выкарыстоўваецца як аргумент у палітычных перамовах і з'яўляецца паказчыкам палітычнай волі. Пасол абвяргнуў таксама міф аб неадэкватным удзеле беларускага ўрада ў фінансаванні польскіх арганізацый у Беларусі.

Супрацоўнік Бюро палітычнай абслугі Прэзідэнта спадар Пётр Лаеўскі (сам родам з Беластока) сказаў, што нашая грамадскасць стварае ўласнае гета, церпіць ад комплексу адасобленасці і не хоча, ці не можа адкрыцца перад польскім грамадствам. На такое выказванне Сакрат Яновіч рэплікаваў сцвярджэннем, што паводзіны меншасці — гэта вынік стаўлення да яе з боку большасці. Прыпомніў ён, што далей функцыянуе стэрэатып, што беларускімі справамі займаецца і паспяхова іх вырашае БГКТ, а спробы публічна паставіць беларускія справы мясцовая адміністрацыя лічыць шавіністычнай выхадкай. Адным словам, пра беларускія справы лягчэй размаўляць у Варшаве, чым у Беластоку.

Міністр Анджэй Закжэўскі згадзіўся, што трэба верыфікаваць стэрэатыпы, якія бытуюць у народзе, што беларусы тут — не чужынцы, яны — свае, але трохі іншыя. Госць не даў прысутным ніякіх абяцанняў, а толькі папрасіў падрыхтаваць нататку аб нашых найважнейшых праблемах, з вылучэннем некалькіх прыярытэтных пытанняў, якія разгледзіць Канцылярыя Прэзідэнта РП.

**В. ЛУБА**

# ШТУКАРЫ, НАПЕРАД!

*Візіт надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Беларусі ў Польшчы Уладзіміра Сянько і бельведэрскага мністра Анджэя Закжэўскага на Беласточчыне выклікаў сярод беларусаў чарговую надзею, што хтосьці ўсур'ёз захоча іх выслухаць. Падчас сустрэчы з гасцямі ў рэдакцыі „Нівы" прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў пачалі шчыра расказваць пра складаныя праблемы свайго асяроддзя. Міністр таксама рабіў ўражанне, што з увагай іх слухае.*

*Праз некалькі гадзін, аднак, выявілася, што гэта была „нармальная" сустрэча з Высокімі Прадстаўнікамі Дзяржаўных Уладаў, з якой нічога канкрэтнага не вынікае і з якой астаюцца толькі такія ці іншыя ўражанні.*

*Міністр Закжэўскі перад мікрафонам Беластоцкага радыё ахарактарызаваў свае размовы з беларусамі так: „Nasi rozmówcy mówili, że są słabo wspierani przez państwo. Chcą, by Warszawa załatwiła im sprawy mleczarni czy instytutu filologii białoruskiej". Тое, што беларускія дзеячы больш чым гадзіну тлумачылі Высокім Ураднікам, аказалася малаважным, яны і так зараз пасля сустрэчы пра ўсё забылі. Міністру пэўна запомнілася толькі адно, што нейкія людзі маюць нейкія праблемы і дамагаюцца грошай. Усё быццам бы таксама, як у Атвоцку, Шапятове ці дзесьці ў Тракішках.*

*Падчас сустрэчы супрацоўнік Канцылярыі Прэзідэнта Пётр Лаеўскі, родам з Беластока, выказаў думку, што беластоцкія беларусы — гэта вельмі закамплексаваная грамадскасць, якая стварыла нейкае гета і не дапускае нармальных кантактаў з палякамі. Прысутнаму на сустрэчы Сакрату Яновічу пасля такога выступлення не заставалася нічога іншага, як расказваць анекдоты. На жаль, ніхто больш не распараджаўся запасам жартаў і выйшла, што беларускі бок зусім непадрыхтаваны да размовы.*

*Усё-такі апошняя фраза выступлення міністра на хвалях беластоцкага эфіру гучала вельмі аптымістычна: „Ja Białorusinów nie znam. Nie chcę o nich nic mówić, bo mógłbym wypowiedzieć stereotyp ich krzywdzący". Амаль 2400 гадоў таму назад адзін грэк сказаў: „Я ведаю, што нічога не ведаю". Сёння аўтар гэтых слоў успрымаецца як адзін з найразумнейшых людзей, якіх нарадзіла наша Зямля-Маці.*

**Я. М.**

## ПАНАРАМА КЛЯШЧЭЛЕЎСКАЙ ГМІНЫ (III)

Кляшчэлеўская гміна мяжуе з пяццю гмінамі: Дубіцкай, Чаромхаўскай, Мілейчыцкай, Арлянскай і Боцькаўскай. Займае плошчу ў 14262 гектары, у тым ёсць 8762 га ўгоддзяў (лугі і сенажаці - 2894 га), 5135 га лесу і ажно 1289 га няўдобіцы ды пяскоў. Таму тут найбольш сеюць жыта ды садзяць бульбы. Пшаніца, рапс, цукровыя буракі і падобныя сельскагаспадарчыя культуры тут рэдкасць. Кожны год у гміне садзяць лес. Ужо амаль усе няўдобіцы пад ім. Для параўнання: у 1980 годзе лес займаў 3980 гектараў а цяпер - 5135 га.

Жыхары Кляшчэлеўскай гміны вельмі мала садзяць пладовых дрэў і кустарнікаў. Прысялібныя сады займаюць... трыццацігектарную плошчу.

### ТРЫ СОЛТЫСЫ Ў СПАДНІЦАХ...

У гміне - пятнаццаць салэцкіх вёсак. Сярод солтысаў — тры жанчыны: Валянціна Грыгарук з Пагрэбаў, Ірына Зінчук з Палічнай і Мар'я Леўчук з Курашава.

### ГМІНА МАЕ СВАЮ ГАЗЕТУ

З верасня 1991 года ў Кляшчэлях выдаюць мясцовую газету. Рэдактарам яе з'яўляецца Мар'я Клімовіч. Газета выходзіць адзін раз у месяц. Яе можна купіць у кіёску "Рух" і ў Гмінным асяродку культуры ў Кляшчэлях ды ў спажывецкай краме ў Дабрывадзе. Змест часопіса "Co słychać w gminie", як сцвярджаюць яго чытачы, штораз больш цікавы. Увесь тыраж - 100-120 экземпляраў - разыходзіцца поўнасцю. У верасчёўскім нумары будуць упершыню змешчаны інфармацыі не толькі з Кляшчэлеўскай, але і з суседніх гмінаў, што пашырыць круг яе чытачоў, першнаперш у Дубіцкай гміне. Войт гэтай гміны Анатоль Паўлоўскі запрапануе мясцовую газету радным і солтысам.

### КЛЯШЧЭЛІ ДА 1990 ГОДА...

Найдаўжэй у Кляшчэлях працягвалі сваю дзейнасць ганчары, кавалі і шаўцы. Рамеснікі і крамнікі ўступілі месца грамадскім прадпрыемствам і такому ж гандлю. Тут узніклі між іншым ПОМ, ГС "Сялянская самадапамога", спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў, хімічны кааператыў "Бэтэска". У мясцовай вытворчасці працавала больш 540 чалавек, у тым ліку 230 жанчын. Сельскай гаспадаркай займалася 355 асоб.

У васьмідзесятых гадах найбольшым кляшчэлеўскім прадпрыемствам быў ПОМ. Каля яго пабудавалі прыгожы жыллёвы пасёлак. Трохпавярховыя жыллёвы блокі пабудавалі таксама побач ПГР. На "Сойчыным пагорку" "вырас" пасёлак прыватных дамоў.

У мястэчку дзейнічалі: пякарня, каўбасная фабрыка, млын, бетонны завод, фабрыка ахаладжальных газіраваных напіткаў, сталовая.

Апрача падставовай школы працавалі сельскагаспадарчая ды прафесіянальная (механічная) школы.

### ...І ПАСЛЯ 1990 ГОДА

Зараз не працуюць ужо ПОМ і ГС, а таксама хімічны кааператыў "Бэтэска". Няма дзе падсілкавацца - закрылі ГСаўскую сталовую. Замест Дома культуры, як раней планавалі, улады гміны будуюць падставовую школу. Зараз гэтая пабудова спынена з-за недахопу фінансавых сродкаў. З'ехалі з будаўнічай пляцоўкі рабочыя бельскападляшскага "Унибуда".

Асяродак культуры памясціўся ў дабудаваным другім паверсе стражацкай рамізы (пажарнага дэпо). Тут знаходзіцца таксама рэдакцыя мясцовай газеты. У ліпені бягучага года закончылі пры дапамозе грамадскага пачыну рамонт мясцовага купальнага басейна.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

## ЯК ШУКАЦЬ ПРАЦУ?

Неяк у пятніцу, каля гадзіны чацвёртай у „Ніву" патэлефанавалі. У трубцы адазваўся сімпатычны галасок маладой жанчыны:

— Выбачайце, калі ласка, ці я магу гаварыць з сакратарам рэдакцыі? — пытанне прагучала на польскай мове.

Хаця ў гэту пару ў рэдакцыі наогул нікога быць не павінна, я ўсё-такі хацеў зрабіць ласку: — Хвіліначку, зараз праверу.

Так як я спадзяваўся, сакратара ўжо не было, аб чым я сказаў у трубку.

— Але можа вы жадаеце гаварыць з галоўным?

— Бо ведаеце, — жанчына як бы не пачула майго пытання, — я з'яўляюся студэнткай медыцыны і шукаю працу...

— Але ж тут рэдакцыя, а не амбулаторыя, — можа ўжо і менш ветліва, аднак даволі канкрэтна заўважыў я.

— Нічога, у мяне ўжо ёсць вопыт працы ў рэдакцыі, — не далася збіць з панталыку студэнтка, — я нейкі час была карэктарам у „Gazecie Współczesnej".

— О'кэй, — аргумент у яе быў важкі, таму не выпадала адкласці трубку. — А ці ведаеце вы беларускую мову?

— Не, не ведаю, — адказ празвучаў вельмі шчыра.

— Ну, тады, на жаль, не маеце чаго ў нас шукаць, — тлумачыў я як мага прасцей чорную рэчаіснасць, — ці вы ўсведамляеце сабе, што пазванілі ў беларускую рэдакцыю?

— А можа ёсць якое месца працы пры камп'ютэрах, ці як? — не здавалася студэнтка, зноў быццам не пачуўшы майго пытання.

— Не, няма, — размова пачынала мне надакучваць, — але ў нас "нават" пры камп'ютэрах трэба ведаць беларускую мову!

— А калі б былі такія веды?

Пытанне збіла мяне з ног. Ну ты даеш, дзяўчына!

— Як хутка вы думаеце набыць такія веды?

— Я не пра сябе цяпер думаю. У мяне ёсць сяброўка, якая закончыла рускую філалогію...

— Ну і што з таго?! — Ад маёй першапачатковай гжэчнасці не засталося і следу. — Мы выдаем газету па-беларуску, не па-руску!

— Ага, гэтыя мовы крышачку розняцца між сабой, — голас дзяўчыны ні на чуць не змяніўся.

— Так, крышачку, — я зацісную зубы, каб не кінуць у трубку матам.

— Дык выбачайце, я можа патэлефаную яшчэ раз, праз нейкі час.

— Калі ласка, — паклаў я трубку з надзеяй, што „праз нейкі час" трапіць яна на кагосьці іншага...

**М. В.**

## АБ ПЕРАВАЗЕ ПІВА НАД МАСЛАМ

**(базарны дыялог)**

У нас у Бельску апошнім часам на базары паявілася піва „Жыгулёўскае". Калі пашэнціць, можна яго купіць нават па 5 тысяч за бутэльку. Але ў гэтую нядзелю прадаўцы заўпарціліся — прадавалі толькі па сем тысяч.

Адзін салідны дзядзька спрабаваў быў збіць цану, але махнуўшы рукою, узяў пляшак пяць і за такія грошы. Якраз піхаў піва ў торбу, як да таго самага століка падышла старэйшая ўжо, поўная жанчына з роварам.

— Па колькі ў вас гэтае масла? — узважыла ў руцэ вялікі кавалак.

— Па пяць тысяч, бярыце, яно харошае, ўкуснае...

— Ой, нешта дорага ў вас, — пакруціла носам мажная цётка.

— Дорага? — здзівіўся дзядзька, які якраз паспеў схаваць сваё піва. Да гандляркі звярнуўся з лёгкай прэтэнзіяй у голасе:

— Масла прадаеце па пяць тысяч, а піва то па сем.

— Бо гэта піва.

— А гэта ж масла.

— Для іншых піва даражэй за масла, — адазвалася поўная жанчына з роварам.

— Бо здаравейшае, — аўтарытэтна сцвердзіў дзядзька і тут жа абгрунтаваў гэтае сцвярджэнне: — У масле вунь колькі халестэрыну...

— Чаго, чаго? — перабіла кабета.

— Халестэрыну! — паўтараў з націскам дзядзька, — ад гэтага інфарктам можа скончыцца. А піва што? На нырткі вельмі здаровае, яго нават лекары прапісваюць.

— Так, на ныркі, — буркнула жанчына з роварам, — а на пячонку?

— І на пячонку піва не шкодзіць, — у словах дзядзькі не было ніякага сумнення, — гэта тлушч яе з'ядае. Менш сала, проша пані, менш сала!

І пайшоў ён сваёй дарогай. А тая жанчына з роварам масла так і не купіла...

**ак**

## НА ГРЫБАХ

Прачытаўшы артыкул Васіля Курганові ча з 29 н-ра „Нівы", чалавек упэўніваецца ў тым, што адзін жыве, а другі — гніе.

Аднойчы намовіла мяне жонка пайсці па грыбы. Пайшоў я, назбіраў каля двух кілаграмаў, і думаю — будзе нейкіх сто тысяч. Але вось на скупцы выйшла фіга. Палова грыбоў пайшла ў другі гатунак — па 35 тысяч. Галоўнае, аднак, не ў грыбах. У лесе спаткаў я пенсіянера, які збіраў бутэлькі. У адну сумку клаў ён грыбы, у другую — бутэлькі. Так папраўдзе, бутэлек у лесе болей чым грыбоў. Спытаў я таго чалавека, навошта ён бутэлькі збірае. Аказалася, што на хлеб. Над Семянoўскім вадасховішчам ён за дзень збірае толькі бутэлек, што атрымоўваецца яшчэ палавіна галецкай пенсіі і ёсць за што купіць хлеба і да хлеба. Прэзас KRUSa і іншыя начальнікі павінны задумацца над лёсам пенсіянераў, прымушаных збіраць бутэлькі. Толькі невядома, ці яны аб гэтым ведаюць? Пэўна бацькі запісалі ім гаспадаркі і ім здаецца, што так менавіта і быць павінна.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## РАКА МАЛАКА

Існавала калісьці адна прымаўка, якая даволі добра адлюстроўвала ўяву гараджаніна пра лёс і працу гаспадара: гаспадар ляжыць сабе ў хаце, а на полі ўсё само яму расце. Кожны, хто выхаваўся на вёсцы або нейкім чынам сутыкнуўся з працай на гаспадарцы, добра ведае, як гэтая прымаўка маецца да праўды. Калі пагутарыць сёння з кім-небудзь, хто яшчэ калупаецца ў зямлі, наогул няшмат можна пачуць ад яго станоўчага пра працу на гаспадарцы. Усе гаспадары адзначаюць, што з года ў год непамерна даражэюць штучныя ўгнаенні і паслугі, а калі не падсыплеш гэтых угнаенняў, кажуць, то хутчэй за ўсё ні халеры на полі не вырасце. Наняць камбайн на жніво — таксама трэба добра падумаць, бо невядома ці гэтае збожжа аплаціць працу машыны. Усё, за што гаспадару трэба плаціць ідзе ўгару, а гаспадарскае стаіць у месцы. А расходы ж на гаспадарцы ёсць увесь час. Адкуль браць тыя грошы?

Напэўна пастаяннай крыніцай сякога-такога прыбытку (прынамсі на бягучыя расходы) з'яўляецца малако.

### Адкуль бярэцца малако?

Бачыў я ў тэлебачанні, яшчэ гераўскім часам, адну перадачу, у якой гарадскіх дзяцей пыталі, адкуль бярэцца малако. З крамы — адказвалі яны. Хаця і нельга адмовіць ім некатарай рацыі, то варта тут заўважыць, што малако праходзіць усё-ткі доўгі шлях, пакуль трапіць у тую краму. Складанасці гэтага працэсу людзі ў горадзе наогул не ўсведамляюць. Спачатку гаспадар вязе малако ў малачарню...

### Малачар — пажаданая пасада

Працаўніку малачарні, які прымае ад гаспадароў малако, плацяць ад агульнай колькасці літраў, якую малачарня пастаўляе ў „раён". Абавязкаў у малачара не так ужо і шмат — звозіцца яны да двух-трох гадзін працы кожны дзень. Малачарамі ў вёсцы, якую хачу тут апісаць, былі ўсе — з нешматлікімі выключэннямі тых, якія ніколі не хацелі брацца за гэтую справу. Называць вёску не трэба, гаварылі мне людзі, бо ў кожнай вясковай малачарні, напэўна, гэтыя справы падобна маюцца.

— Ці варта прымаць малако, пытаеце? Вось маё малако, прыкладам, мае 3,8 працэнта тлушчу, часамі крэску болей — так яно атрымлівaецца, калі камісійна правяраем свежае малако, але ў месячным разліку працэнт тлушчу чамусьці падае да 3,2. Мая страта ідзе да паўмільёна ў месяц. Варта было б быць малачаром ужо з тае прычыны, што тады можаш прынамсі дапільнаваць свае малако, ніхто табе не накруціць з гэтымі працэнтамі.

### Удойныя рэкардзісткі ды цудоўныя апладненні

— Усякія былі ў нас малачары. Некаторыя былі імі па некалькі разоў. Бадай толькі адна жанчына сама адказалася ад гэтай пасады — прымала малако месяц-два і кінула. Калі людзям не абрэжаш працэнтаў, сказала, не нажывешся. Не хачу я гэтай справы.

— Ну, але былі і іншыя. Аднаму чалавеку, калі стаў прымаць малако, то на тлушчамеры не хапала крэсак, каб змерыць тое малако, якое ён сам прыносіў у малачарню. Рыхтык чыстую смятану давалі яго каровы.

— Адзін быў малачаром некалькі гадоў. Добра яму ішло. Развёў свой статак неяк да дзесяці штук — кожны дзень прывозіў малако ў пару курсах па некалькі банак. Ягоны сваяк прывозіў таксама літраў дваццаць, хаця кароў і не гадаваў. Але людзі ж маюць сваю цярплівасць ды „звальчылі" яго. Калі прыйшоў новы малачар, то тыя каровы неяк, у адзін дзень, пазапускаліся.

— Новы таксама прабыў некалькі гадоў, але і яго ў канцы скінулі, бо пазайздросцілі „паланеза" — хадзілі чуткі, што збіраецца купляць.

— Быў яшчэ адзін цікавы малачар. Праўда, ніякіх хітрыкаў ён не рабіў, але ў малачарню пачалі зносіць больш гарэлкі, чымсьці малака — чысціні не трымаў. Прыехала аднаго разу панюся з раёна і дакарала яго за той непарадак. А навошта гэта мыць, адказаў, вам жа, у горад, ніхто чысцейшага не дае.

**С. ЗЛЕЎНІК**

# ПРЫЗАБЫТЫЯ ПАРТЫЗАНЫ

Працяг са стар. 1

нюк, другога і трэцяга — Г. Плюша, а рэдакцыя знаходзілася ў „Галоўным Штабе Беларускіх Партызанаў у Белавежскай Пушчы". Змест выдання — гэта ў большасці прапагандысцкія тэксты, азнаямленне з буйнейшымі постацямі партызанскай барацьбы, адозвы, дэкларацыі ды бягучая інфармацыя аб дзейнасці паасобных атрадаў. Паводле звестак, якія атрымалі службы бяспекі ад сваіх інфарматараў, на пачатку сакавіка 1922 года атрад Скамароха намерваўся распачаць нейкую „вайсковую дзейнасць". У сувязі з гэтым, 2 і 3 сакавіка паліцыяй было арыштавана шмат чалавек, якія прымалі ўдзел у канспірацыі. Сярод іх была Вера Маслоўская — галоўны ідэолаг руху.

Пачынаючы з арыштаў у пачатку сакавіка 1922 г. „Брацтва Сялян Беларусаў" пачынае новы перыяд сваёй дзейнасці.

### НАПАДЫ І РАССТРЭЛЫ

Пасля арышту астатнія члены атрада перайшлі жыць у схованкі ў Белавежскую пушчу. У тым жа часе атаман Скамарох загадаў Яну Грыцуку (псеўданім „Чорт") тэрмінова арганізаваць дружыну для вядзення вайсковых акцый. Неўзабаве група „Чорта" з 25 чалавек пачала весці сваю дзейнасць. 7 красавіка „Чорт" напаў на дом палясоўшчыка Яна Алькевіча ў Вітаве; 17 красавіка былі падпалены склады дрэва на 102-м кіламетры чыгуначнага шляху Чаромха — Гайнаўка; 11 ліпеня „невядомыя злачынцы" ўзарвалі склады са зброяй II артылерыйскага палка ў Гродне; летам 1922 г. быў падпалены чыгуначны мост на рацэ Нараўка непадалёку Белавежы.

Аднак найбольш смелым выступленнем партызан быў напад на мястэчка Кляшчэлі. Некалькі дзён да правядзення нападу, камендант пастарунка паліцыі ў Кляшчэлях атрымаў ліст з пячаткай „Брацтва Сялян Беларусаў", у якім пісалася, між іншым: *Panowie Bandyci Policji w Kleszczelach. Stosownie do rozkazu atamana Skamarocha, ja, dowódca oddziału terrorystów Jan Czort uprzedzam, ze jeżeli wy, polskaja sfołacz, nie zaprzestaniecie bicia i wulgarnych drwin nad naszymi braćmi Białorusinami podczas aresztów, za wasze postępki zostaniecie powieszeni na słupie telegraficznym.*

Напад быў праведзены ноччу з 28 на 29 красавіка 1922 года. Пасля захопу пастарунка паліцыі, падчас якога было забіта двое паліцэйскіх, партызаны забралі адтуль 7 карабінаў з боепрыпасамі, мундзіры, пячаткі, частку карэспандэнцыі, грошы і прыватныя рэчы паліцэйскіх. Пасля поўначы атрад падаўся ў рэстаран Ануфрыя Савіцкага. Калі ўласнік і яго жонка пачалі абараняць сваю маёмасць, захопнікі забілі гаспадара (ягонай жонцы пашанцавала нейкім цудам уцячы). Людзі „Чорта" забралі ў Савіцкага 500 тысяч марак, залатыя манеты, пасцель, 100 бутэлек гарэлкі, лікёр і ежу. Апошнім „пасдзвігам" няпрошаных гасцей у Кляшчэлях была спроба нападу на рымскакаталіцкую плябанію, аднак нічога з гэтага не атрымалася. З Кляшчэляў „Чорт" і яго падначаленыя выехалі на рэквізаванай фурманцы.

У адказ дзяржаўныя ўлады зрабілі аблаву ў Белавежскай пушчы, якую 6 мая правялі паліцэйскія і вайсковыя аддзяленні. Пасля няроўнага змагання ў палон трапіла шэсць партызан, астатнія ўцяклі ў пушчу. За ўдзел у нападах чатырох падначаленых Яна "Чорта": Андрэй Тамашук (21 год), Ян Захарчук (24 гады), Ян Піцэлюк (36 гадоў) і Дзямян Мартынюк (36 гадоў), па прыгавору ваенна-палявога суда, расстралялі. Прыгавор быў выкананы 24 мая 1922 г. у Беластоку. У час аблавы паліцыяй была знойдзена схованка атрада Скамароха ў Белавежскай пушчы. У зямлянцы, дзе размясціўся штаб атамана, паліцэйскія выявілі між іншым копіі лістоў высланых Скамарохам, службовыя занатоўкі з прозвішчамі членаў арганізацыі, шэсць картаў нямецкага Генеральнага штаба, два слоікі са стрыхнінам і частку рэчаў, зрабаваных у час нападаў. Асабліва цікавымі з'яўляюцца лісты і адозвы, якія атаман Скамарох высылаў у высокія дзяржаўныя ўстановы і публічным асобам у Польшчы. Для прыкладу, ва ультыматуме, высланым Начальніку Юзэфу Пілсудскаму, ватажка з Белавежскай пушчы дамагаўся права на вызначэнне свайго лёсу беларусам- грамадзянам Рэчыпаспалітай, спынення рэпрэсій, разбурання праваслаўных цэркваў, вызвалення з турмы дзеячоў, эвакуацыі польскіх гарнізонаў з тэрыторыі Заходняй Беларусі і стварэння камісіі дзеля сумоўнай развязкі гэтых пытанняў. Другім адрасатам ліста падобнага зместу была місія Расейскай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі ў Варшаве. Яшчэ адзін ліст, у якім атаман пералічваў ураднікаў перад вывазам дрэва з Белавежскай пушчы, быў высланы ў Віленскую дырэкцыю дзяржаўнай чыгункі.

Пасля аблавы атрад фактычна спыніў сваю вайсковую дзейнасць. У час нарады партызаны дайшлі да вываду, што трэба ўцякаць у Літву. Аднак шчасце адвярнулася ад канспіратараў. Падчас спробы нелегальнага пераходу мяжы, дзве асобы былі арыштаваны, астатнія вярнуліся ў пушчу. Які быў далейшы жыццёвы шлях атамана Скамароха, цяжка ўстанавіць. Крыніцы прыводзяць непацверджаныя звесткі, што нейкім чынам апынуўся ён на Беларусі і стаў дырэктарам нейкага прадпрыемства. Затое добра вядома гісторыя арыштаваных сяброў „Брацтва Сялян Беларусаў". Былі яны асуджаны ў славутым „працэсе 45-ці" беларусаў у Беластоку — першай палітычнай судовай распраўе такіх памераў у гісторыі II Рэчыпаспалітай.

*(Заканчэнне будзе)*

**ЮРЫ КАЛІНА**



*Вера Маслоўская (сядзіць справа) на з'ездзе ў Празе ў 1921 г.*

# НЕПАТРЭБНЫЯ ПЕРАЛІКІ

Вельмі часта ў польскай прэсе, асабліва ў беластоцкай, чытаем, што палякі на Беларусі моцна пакрыўджаныя ў параўнанні да беларусаў у Польшчы. Чуюцца галасы, што беларуская дзяржава не дае ні капейкі на польскую культуру на Гродзеншчыне. Мы, хаця ледзь і дыхаем, аднак пры дапамозе польскага Міністэрства культуры і мастацтва выдаем „Ніву" і некалькі кніжак „белавежцаў" у год, а БГКТ арганізуе фэстыны. З увагі на тое, што мы плацім падаткі таксама як і ўсе грамадзяне, дык гэтую дапамогу не ўспрымаем як міласціну, а як належныя нам сродкі. Але ўсё-такі робіцца нам няёмка, калі чытаем пра палякаў у Беларусі. Яны ж таксама тамтэйшыя грамадзяне, там працуюць і плацяць падаткі. Звярнуліся мы тады да надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзіміра Сянько, каб расказаў пра фінансаванне польскіх арганізацый у Беларусі. Спадар Сянько прадставіў факты, якія змянілі вобраз нашых уяўленняў. Міністэрства культуры Беларусі фінансуе арэнду будынка для Цэнтра польскай культуры ў Гродне. Цэнтр гэты мае статус рэспубліканскай установы, для якой дзяржава забяспечвае штаты чатырох працаўнікоў, ільготны тарыф на тэлефонныя размовы і паперу для „Голасу з-над Нёмана". Бясплатна былі перададзены пляцоўкі для пабудовы цэнтраў польскай культуры ў Лідзе, Шчучыне і Ваўкавыску. У 1992 г. было адведзена 9 мільёнаў рублёў на друк падручнікаў для польскіх школ, а ў гэтым годзе — 10 мільёнаў. 6,5 мільёна рублёў прызначана на перакваліфікацыю настаўнікаў да працы ў гэтых школах. 2 мільёны рублёў у гэтым годзе запланавана, як на пачатак, для рэдакцыі „Голасу з-над Нёмана". Дзяржава стварае таксама ўстаноўчы фонд дзеля арганізацыі гаспадарчай дзейнасці Саюза палякаў Беларусі і дае арганізацыі адпаведныя ліцэнзіі на гандаль таварамі, якія гарантуюць адпаведныя прыбыткі.

З увагі на розніцы цэнаў і вартасць валюты цяжка параўнаць заангажаванне беларускай дзяржавы ў дапамогу палякам і польскай — у дапамогу беларусам. Зрэшты, ці можна культуру і маральнасць пералічыць на грошы і ці ўвогуле такі пералік патрэбны? Кожная цывілізаваная дзяржава павінна шанаваць сваіх грамадзян, не аглядаючыся на суседзяў. Менш-больш і такі быў сэнс выказванняў прэзідэнта Л. Валэнсы падчас яго пабыўкі ў Беларусі.

**Рэд.**

# ШУШКЕВІЧ ПОЙДЗЕ ІНШЫМ ШЛЯХАМ. ЕЛЬЦЫНСКІМ?

Бадай, з часоў жнівеньскага путчу палітычная сітуацыя ў Беларусі не была такой напружанай і трывожнай, як у пачатку сёлетняга ліпеня.

Увесь сыр-бор у беларускім парламенце, як заўжды, разгарэўся зусім нечакана. Дэпутаты абмяркоўвалі даклад старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча аб так званым „бягучым моманце" (гэта значыць эканамічную і палітычную сітуацыю ў рэспубліцы), і раптам пракамуністычная большасць не вытрымала. Прынцыповасць і настойлівасць, з якой спадар Шушкевіч абараняў ідэю нейтральнай Беларусі, нарэшце, вывела з раўнавагі моцнае ўрадавае лобі ў Вярхоўным Савеце. Яго прадстаўнікі патрабавалі паставіць пытанне аб недаверы спікеру. Не спыніў парламенцкую большасць нават той факт, што ў зале не было дастатковай колькасці дэпутатаў для прыняцця гэтага важнага рашэння. Раз'юшаныя пракамуністычныя парламентары прагнулі толькі аднаго — спіхнуць „дэмакрата" Шушкевіча з крэсла кіраўніка дзяржавы. Іх не бянтэжыла, што яны — вышэйшая заканадаўчая ўлада ў Беларусі — парушаюць закон і фактычна здзяйсняюць дзяржаўны пераварот.

Мажліва гэта і ўдалося б, калі б Шушкевічу ў каторы раз не прыйшлі на дапамогу дэпутаты ад апазіцыі БНФ. Менавіта парламентары з Беларускага народнага фронту ўмела выкарысталі тактыку байкоту гэтага галасавання, і мірны путч у Вярхоўным Савеце не ўдаўся. За недавер Шушкевічу выступілі 166 дэпутатаў. Не хапіла ўсяго сем галасоў, каб спікер беларускага парламента падаў у адстаўку. Такім чынам, крэсла пад Шушкевічам захісталася. І вельмі моцна. Парламенцкая пракамуністычная большасць, здаецца, ужо зусім ачуняла ад паражэння ў жніўні 1991 года і перайшла ў контрнаступленне. Паразумнеў, нарэшце, і Станіслаў Шушкевіч, які да гэтага часу быў упэўнены, што дзеючы зараз Вярхоўны Савет пад яго кіраўніцтвам здолее вывесці краіну з крызісу. Паводле Шушкевіча, на сённяшні дзень галоўнае пытанне для Беларусі — прыняцце Канстытуцыі. А паколькі Вярхоўны Савет не прыме дэмакратычнай канстытуцыі, па меркаванню спікера, трэба абраць спецыяльную Канстытуцыйную асамблею, якая і вырашыць лёс Асноўнага Закону Беларусі.

Што ж, ідэя Канстытуцыйнай асамблеі не новая. Яна запазычана Шушкевічам у расейскага прэзідэнта Ельцына. Апошні, як вядома, наладзіў у Маскве канстытуцыйную нараду, што дала пэўныя станоўчыя вынікі. Аднак, у адрозненне ад Ельцына, Шушкевіч не мае такіх вялікіх паўнамоцтваў. Ён проста спікер — чалавек, які павінен выконваць волю парламенцкай большасці. Таму, відавочна, новая — запазычаная ідэя Шушкевіча ні што іншае, як звычайны палітычны выкрутас, гульня на публіку, калі хочаце. І, хутчэй за ўсё, думка аб Канстытуцыйнай асамблеі праз пэўны час паспяхова забудзецца. Прынамсі, да прэзідэнцкіх выбараў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ВОБЛІК ТАТАЛІТАРЫЗМУ

Няхай чытачы не падумаюць, што буду я апраўдваць фашызм і ўсе злачынствы звальваць на камунізм. Абедзве гэтыя сістэмы нялюдскія, бо прынеслі яны многа гора і мноства людзей загналі ў магілу толькі за тое, што былі нявыгадныя для сістэмы. Ды камунізм, па-мойму, быў болей люты для свайго народа, чым яго сапернік - фашызм. Мабыць, чулі вы пра Рыхарда Зорге, немца па нацыянальнасці, а ў сутнасці адданага камуніста і савецкага шпіёна. Працаваў ён ваенным аташэ нямецкага пасольства ў Японіі і яшчэ некалькі месяцаў да агрэсіі Германіі на СССР - 22 чэрвеня 1941 г. - паведаміў Маскву пра план "Барбароса" і падаў нават яго дату. Сталін аднак гэтаму не паверыў, сказаў што гэта (інфармацыя Зорге) - правакацыя, і самога разведчыка назваў ворагам. Японская контрразведка пры канцы 1941 г. раскрыла дзейнасць Зорге і арыштавала яго. На допытах Зорге прызнаўся, што працаваў для савецкай разведкі. Японцы спадзяваліся, што памяняюць Зорге на некалькіх сваіх разведчыкаў; надзеі гэтыя грунтаваліся на тым, што паміж Японіяй і СССР быў заключаны мір. Аднак японцы дарма чакалі гэтага і прыйшлося ім выканаць смертны прыгавор. Зрабілі гэта ў гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1944 годзе. Рыхард Зорге перадаў у Маскву яшчэ адну важную інфармацыю, што Японія не намервацца прыступаць да вайны супраць СССР. Масква аднак не прызнала яго геройства, а наадварот: НКУС расстраляла ягоных жонку і дзяцей, усю сям'ю - так як у 1918 годзе бальшавікі расправіліся з сям'ёй цара Мікалая II. Геройства Рыхарда Зорге было прызнана Масквой толькі ў 60-х гадах. Другі прыклад: калі ў 1942 годзе савецкі генерал Андрэй Уласаў пачаў арганізаваць з папаўшых у палон савецкіх салдат антыбальшавіцкую армію - РОА, энкавэдысты зараз жа расстралялі яго жонку і дзяцей. У чым былі вінаўныя сям'я ці то Зорге, ці Уласава? Я падаў толькі два прыклады, але было іх намнога болей.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

 

# ПРААБРАЖЭННЕ ГАСПОДНЯЕ

Гэтае свята набліжае да нас падзеі на Гары Фавор. Надыходзіў час пакуты і смерці Хрыста і Ён, каб умацаваць вучняў у веры, вырашыў ім паказаць наглядна ўсю славу Сваёй Боскасці. Ісус хацеў таксама паказаць апосталам, што Яго пакуты і распяцце будуць дабравольнымі і паслужаць збаўленню свету і што Ён — Збавіцель абяцаны прарокамі. Аб Праабражэнні Гасподнім пішуць Евангелісты Мацвей (17, 1-13) і Лука (9, 28-36).

Хрыстос узяў з сабою Пятра, Якава і Іаана — трох самых блізкіх Яму вучняў, якія былі ўдзельнікамі і сведкамі ўсіх найважнейшых здарэнняў у Ягоным зямным жыцці. Паводле закона іх трох было дастаткова, каб стаць сведкамі (V Кніга Майсеева, 19,15) Божай хвалы, а паводле Св. Прокла, былі яны адначасна „прадстаўнікамі ўсіх астатніх вучняў". З'явіліся там таксама прарокі Майсей і Ілья — першы, які памёр і другі, які не спазнаў смерці. Як паясняе Св. Іаан Златавуст, іх прысутнасць абазначала, што „Хрыстос мае ўладу над жыццём і смерцю, пануючы над небам і зямлёю". Святы Яфрэм Сірын дабаўляе яшчэ: „Радасцю напоўніліся Прарокі і Апосталы, калі ўвайшлі на гару. Прарокі цешыліся, бо пабачалі Яго чалавечнасць, якой не бачылі, а Апосталы, бо пабачылі Яго боскасць, якой раней не разумелі". Глядзелі на сябе ўзаемна прадстаўнікі Старога і Новага Завета, а Гара Фавор у гэты момант прадстаўляла Царкву, таму што Хрыстос спалучыў ёй два Заветы, прынятыя Ёю.

Праабражэнне Гасподняе напамінае нам аб Уваскрашэнні, з'яўляецца быццам бы яго Яго сімвалам, а таксама служыць паказанню гэтай хвалы, у якой прыйдзе Збавіцель судзіць жывых і мёртвых і гэтага пераменената стану, у якім мы ўсе апынемся пры сканчэнні гэтага свету.

Паказваючы на гэта, святая Царква дае нам надзею і запэўнівае ўсіх сваіх сапраўдных дзяцей, „вучачы, што пасля кароткатэрміновых бедаў, турбот і розных страт, якімі напоўнена ўсё зямное жыццё, заяснее ў будучым хвала вечнай радасці". Яе ўдзельнікамі будуць тыя, што перамяняюць свой розум непахіснай верай і ў выніку думаюць так, як навучае Евангелле. Яны нязменна стаяць на грунце праўды і адкідаюць усялякую ману.

Свята Праабражэння адзначалі ўжо ў IV стагоддзі, а яго вытокі сягаюць часоў першых хрысціян. Праўда, здарылася яно ў лютым, а не ў жніўні. Царква аднак перанесла святкаванні, бо люты (паводле старога стылю) — гэта час Святой Чатырадзсятніцы, а перыяд посту і пакуты не адпавядаў трыумфальнаму характару гэтага свята. Адзначаем яго *19 жніўня (6.08 паводле ст.стылю)* таму, што з гэтага дня да Свята Узвіжання Крыжа Гасподняга, падчас якога паўторна ўспамінаем пакуты Хрыста, мінае роўна сорак дзён. Гэта ў сваю чаргу спалучаецца з фактам, што з часу здарэнняў на Гары Фавор да распяцця Збавіцеля прайшло дакладна толькі дзён і менавіта адтуль такая дата.

Падчас Праабражэння Гасподняга пасвячаюцца яблыкі (у Грэцыі — вінаград як падзяку за плады, атрыманыя дзеля накармлення чалавека). Спалучаецца гэта як і са старазаветнай, так і з традыцыяй першых хрысціян. Святы Іаан Златавуст навучае, што „чалавек атрымоўвае гэтыя плады не столькі як вынік працы сваіх рук, а хутчэй як вынік дабрыні Бога". Так як уся прырода стала даўжніком Бога за грахі ўчыненыя ўсім чалавецтвам, так і разам з ім чакае яна абнаўлення ў выніку Божага бласлаўлення.

Пастараймася і мы, кожны па меры сваіх духовых магчымасцяў, хаця крышку перамяніцца на нашай Гары Фавор, якой з'яўляецца Святая Гара Грабарка.

**С. СУЛКОВІЧ**



*Паломнікі ў дарозе на Грабарку.* **Фота У. Завадскага**




**БОДХГАЯ**[1/]

Калыска будызму блішчыць у праменнях
Калёрамі храмаў, пацінай вякоў,
А пік Махабодхі[2/] сваім доўгім ценем
Кладзецца на парк і на дахі дамоў.

Пад пікам святыня з фігураю Буды,
Які ўсміхаецца ў бляску лампад,
А побач праходзяць і моляцца людзі.
Як доўгі вуж, пнецца іх звілісты рад.

Шырокі пляц храма. Там вострыя ступы[3/]
Стаяць вартавымі вакол на дзвары.
Пры браме пацінай пакрытыя слупы
Успомняць не раз, як ішлі тут цары.

Пры храме расце старажытная дрэва,[4/]
Сідхартха калісь пад ім Будаю стаў.
Цяпер чуць тут часта манаскія спевы
І рэха далёкіх, забытых актаў.

Манахі схіляюцца ў нізкіх паклонах
Паўзуць на каленях да дзерава Бо,
Да рэштак з чырвонага каменя трону,
Дзе Буда раздумваў калісь над сабой.

А ў жоўтай сцяне, у аздобленых нішах
Рад статуй асветніка дрэмле ў цяні,
А вецер заходні палотны[5/] калыша
Якія, як флагі, вісяць ля сцяны.

За комплексам храма за брамай-таранай[6/]
Стаіць там тыбецкі стары манастыр,
Далей храм кітайскі (там чуць барабаны),[7/]
Тайцкі храм-домік і ціхі пустыр.

У храме японскім ля бочнай дарогі,
Велічэзны Буда ў святле залатым
Усіх ахалоджвае позіркам строгім
І ўсіх захапляе абліччам святым.

А побач манахі ўсе ў жоўтых адзеннях
У бляску лампёнаў і брытых галоў,
Вітаюць нас цёпла з пакоры адценнем,
Без непатрэбных і вычварных слоў.

Нас кляштар бірманскі праводзіць у Гаю[8/]
Уздоўж нешырокай і чыстай ракі.
Бодхгаю са смуткам мы ўсе пакідаем,
Як рой пілігрымаў праз годы, вякі.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

-----------

1/ **Бодхгая** — невялікі горад у паўночна-ўсходняй Індыі — святое месца будыстаў усяго свету.

2/ **Махабодхі** — высокі храм Буды, з пікам вышынёй 50 м., пабудаваны ў III стагоддзі да нашай эры царом Ашокам (273-232), адноўлены ў XI стагоддзі і ў 1882 г. без змянення яго вонкавага і ўнутранага выгляду. Каменні навокал храма — з перыяду Сунга (184-172 да н. э.).

3/ **ступа** — будыйская сакральная будоўля ў форме апракінутай чашы, у якой часта знаходзяцца рэліквіі.

4/ **дрэва Бо** (фігавае дрэва) — пад ім калісь сядзеў сын цара Таутама Сідхартха і дзе прыйшло да яго асвятленне нечаканай новай ідэяй. Адсюль ён пайшоў прапаведаваць новую навуку, стаў Будам — асветнікам. Будысты дрэва лічаць святым. Цар Ашока адрэзаў калісь галіну з дрэва, пад якім сядзеў Буда і пасадзіў яе ў Сры-Ланцы. Калі арыгінальнае дрэва ссохла, яго зрэзалі, а на тое месца пасадзілі галіну з дрэва ў Сры-Ланцы. Яно расце да гэтай пары.

5/ Пілігрымы-будысты вешаюць на сцяне недалёка дрэва каляровыя палотны, часта з надпісамі, якія хваляць Буду.

6/ **Тарана** — назва ўсходняй брамы з парку ў храм.

7/ У будысцкіх храмах манахі часта выбіваюць на барабанах малітоўныя рытмы.

8/ **Гая** — горад недалёка Бодхгаі, цэнтр будыйскіх і індускіх пілігрымаў, другое, пасля Варанасі, святое месца індусаў. Стаяць там храмы богу Вішну (Вішнапад) і богу Сонца.

# ІВАН — ДЫРЫЖОР



Іван Палавянюк нарадзіўся ў 1964 годзе ў Бельску-Падляшскім. Яго бацькі-беларусы паслалі малога Іванка вучыцца ў Пачатковую школу н-р 3. Вучыўся добра, а пасля паступіў у белліцэй, які закончыў у 1983 годзе. Пасля канікул пачаў навуку ў Ольштыне ў педагагічным інстытуце (ВСП), на факультэце музычнага выхавання. Тады пазнаёміўся з прыгажуняй-альштынянкай, Ліліянай Містшак, а пасля заканчэння інстытута пабраліся яны шлюбам. Вянчаў іх у ольштынскай царкве айцец Аляксандр Шаломаў.

Іван любіў спеў з маленства. На Раждзжаство калядаваў з хлопцамі, у Бельску спяваў у царкве св. Міхала. Калі быў студэнтам, спяваў у царкоўным хоры, які вёў Фёдар Юндзін. Дырыжор адышоў па прычыне нездароўя, і Іван з 1991 года заняўся гэтым хорам. Трэба ўспомніць, што хор быў вылучаны ў Гайнаўцы ў 1985 годзе на Днях царкоўнай музыкі. Выступіў на фестывалі і сёлета. Раз у тыдзень адбываюцца ў прахадскім доме рэпетыцыі, апрацоўваецца літургічная праграма. У нашай царкве ёсць каля 200 праваслаўных сем'яў, і мы захапляемся спевам нашага хору.

Хор „Калегіюм бакаларум" — першы ў пасляваеннай гісторыі Ольштына хор настаўнікаў. Заснаваўся ён па ініцыятыве Лехаслава Рагана — прафесара з кафедры музычнага выхавання ВСП у Ольштыне. У хуткім часе з маленькай групкі аматараў музыкі вырас вялікі мешаны хор (цяпер 50 асоб), з багатым рэпертуарам — спяваюць музыку даўнюю, сакральную, народную і сучасную. Дзякуючы адданасці і высокім кваліфікацыям прафесара Л. Рагана і яго асістэнтаў, Марціна Ваўрука, Фелікса Пацера і нашага Івана Палавянюка ды ўсіх удзельнікаў хору мастацкі ўзровень калектыву ўсё ўзрастаў, чаго вынікам былі і ёсць канцэрты. На працягу пяці гадоў праспявалі яны 1194 гадзіны, адбылося 29 канцэртаў. На адным з іх пабываў папа Ян Павел II. Два разы выступалі ў Бельгіі. У 1991 годзе Іван стаў другім дырыжорам настаўніцкага хору, і год пасля прафесар Раган перадаў яму сваю дырыжорскую палачку. Былі два тыдні на гастролях у Бельгіі, на сяброўскае запрашэнне хору з Гандавы, калі адбываўся Еўрапейскі фестываль фламандскай культуры. Былі канцэрты ў Бруселі, Бругіі, Гандаве і Антверпіі... Бельгійскі хор прыедзе сёлета ў Польшчу з рэвізітам. Вядома, не менш важныя выступленні на радзіме. Лічаць, што найважнейшы канцэрт адбыўся ў ольштынскай катэдры св. Якуба. Прагучалі на ім песні „Сие ныне", „К Богородице", „Иже Херувимы" і іншыя.

Іван Палавянюк — добры музыка, так гавораць у Ольштыне. Вядзе яшчэ і музычны гуртох пры філармоніі. З 1986 да 1992 года вёў клас акардэона, цяпер — клас кейбоарда (сінтэзайнер). Быў я ў Івана, мае ён гэты інструмент дома. Слухаеш, быццам цэлы аркестр іграе!.. А Іван разам з Ліліянай вядуць і музычны гуртох малышоў. На працягу года ў філармоніі адбываюцца спецыяльныя канцэрты для дзетак а таксама 350 канцэртаў у Ольштыне і ваколіцы. Іван выступае як Ізыдар-чорны князь, на вялікую радасць малым слухачам...

Наш зямляк перадае гарачыя прывітанні дырэктару бельскай „тройкі" Васілю Ляшчынскаму, інжынеру Барыславу Рудкоўскаму, свяtару Лявонцію Тафілюку з прыхода св. Міхала ў Бельску-Падляшскім і ўсім знаёмым у Парцаве. І просіць змясціць у „Ніве" такі верш, які гаворыць як малітву:

*„Дзе б толькі лёс мяне не кінуў,*
*З далёкіх і блізкіх дарог,*
*Заўсёды знайду пуцявіну*
*На родны бацькоўскі парог!"*

Гэты верш Віктара Шведа наш Іван прысвячае сваім бацькам.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**




У 30 н-ры „Нівы" брат Браніслаў Кавэцкі мае прэтэнзію да маіх слоў: „Каталіцкія тэолагі імкнуцца даказаць, што Хрыстос не меў родных братоў". І далей піша: „Nikt nikogo nie przekonuje".

У „Біблії Тысячагоддзя" ад 1982 г. у Евангеллі ад Мацвея (12: 46) напісана: „Gdy jeszcze przemawiał do tłumu (Chrystus), to Jego Matka i bracia stanęli na dworze i chcieli z nim rozmawiać", а ўнізе ёсць зноска: „Nie bracia rodzeni, lecz stryjeczni lub cioteczni, albo kuzyni. Język hebrajski i aramejski nie ma osobnych wyrazów na oznaczenie bliższych krewnych". Я напісаў тады, што ніводнае Евангелле не было напісана на арамейскай мове (а тым больш на старажытнаяўрэйскай), а толькі на грэчаскай, а ў грэчаскай мове ёсць аддзельныя словы, якія абазначаюць дваюраднага і роднага брата. Ці ж аўтар гэтай зноскі не імкнецца даказаць тэзу, аб якой я пісаў, нават не вельмі чыстымі метадамі, разлічваючы на тое, што чытачы „Біблії" не ведаюць гісторыі яе напісання і не ведаюць, на якой мове яе пісалі. А што датычыць догм, я толькі напісаў аб тым, што праклямаваў каталіцкі касцёл, ды падаў толькі факты. І калі брат Браніслаў Кавэцкі ў іх верыць, гэта яго справа. Супраць яго веры я нічога не напісаў.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**



 

# САМІ ВІНАВАТЫ

У апошнім часе на старонках "Нівы", і не толькі, штораз больш паяўляецца артыкулаў на тэму беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Многія з гэтых артыкулаў выломліваюцца ўжо з традыцыйнай трактоўкі тэмы, калі ўсю віну за цяжкі стан беларускага школьніцтва ў Польшчы іх аўтары ўскладаюць на настаўнікаў беларускай мовы і школу. Нярэдка шукаюць яны, і трэба сказаць, знаходзяць, сапраўдныя прычыны яго слабасці.

Пасля палітычных змен у Польшчы, паявіліся лепшыя ўмовы для навучання родных моў. З гэтага адразу скарысталі ўсе нацыянальныя меншасці, толькі не беларусы. Калі лік дзяцей украінскай, славацкай, чэшскай, нямецкай, цыганскай меншасцяў, якія вывучаюць родную мову ў школах, сістэматычна расце ў апошнія гады, колькасць навучэнцаў беларускай мовы наадварот - сістэматычна падае. А школьніцтва - гэта найдакладнейшы паказчык стану нацыянальнай свядомасці і перспектывы на будучыню ўсёй нашай беларускай меншасці і саміх навучэнцаў...

Дзе ж прычына такой нездаровай сітуацыі? Прычын тут, на маю думку, некалькі, але ўсе яны ляжаць у нас саміх, у нашага грамадства. Найбольшая, аднак, віна ляжыць на нашай беларускай інтэлігенцыі. Яна, як самая свядомая частка грамадства, замест таго, каб быць прыкладам адданай любові і пашаны да ўсяго роднага, бацькоўскага, сама наслілу рвецца паланізавацца. Вось у чым найбольшая бяда і трагедыя. Не выбачаць нам гэтага гісторыя і нашыя нашчадкі. Не перадаўшы ім сваёй мовы, культуры, традыцыі, рэлігіі, не зашчапіўшы любові і пашаны да гэтых адвечных святасцяў, мы свядома абкрадаем іх - збядняем іх духоўна, інтэлектуальна.

7 кастрычніка 1991 г. у тэлевізійнай перадачы "Люз", прысвечанай польскім нацыянальным меншасцям, беларуска - вучаніца Гайнаўскага беларускага ліцэя сказала, што яна чуецца больш вартаснай, чым яе аднагодка з суседняга польскага ліцэя, бо і польскую мову, і польскую літаратуру, і гісторыю, і ўсе іншыя прадметы, абавязковыя ў польскіх школах, ведае таксама, як тая, і дадаткова ведае мову, літаратуру, гісторыю беларускую, чаго ўжо яе аднагодка з польскага ліцэя амаль зусім не ведае...

І гэта ж святая праўда. Значыць выпускнікі беларускіх школ больш вартасныя, як, так бы мовіць, самі сабой, так і для грамадства, дзяржавы нашай. Тым больш, што ідзе тут пра мову і культуру народа, перад якім Польшча і палякі ў вялікім даўгу, хаця не вельмі ахвотна да гэтага прызнаюцца.

Так дзіўна склалася, што польскую літаратуру, культуру, гісторыю ад XVI ст. стваралі ў асноўным не гнязняне, не пазнанцы і не варшавякі, а менавіта жыхары беларускай і украінскай пакутніцкіх земляў. Інакш кажучы, паланізаваныя беларусы і ўкраінцы, якіх называлі тады проста русінамі. Прыклады тут можна множыць і множыць, але я лепш аддам голас найвялікшаму аўтарытэту.

Вось фрагмент інтэрв'ю былога міністра культуры Польшчы, выдатнага сучаснага польскага гісторыка прафесара Аляксандра Краўчука, у часопісе "Kontrasty" (4/85). Штосьці падобнае, хаця і абсалютна праўдзівае, рэдка ўдаецца пачуць з вуснаў паляка: *... у нашай гісторыі маем прыклады вялікіх палякаў, гарачых патрыётаў, якія паходзілі са спаланізаваных крэсавых сем'яў. Думаю, што ў многіх выпадках не хочам аб гэтым слухаць. Забываем, напрыклад, што можа і тры чвэрці вялікіх арыстакратычных сем'яў у Польшчы вядзе свой радавод ад спаланізаваных літоўскіх, беларускіх, украінскіх сем'яў. Назаву тут хаця б Радзівілаў, Чартарыскіх, Вішнявецкіх, Заслаўскіх, Астрожскіх, Сангушкаў, Сапегаў. Паланізавалася таксама і бяднейшая шляхта. Наш нацыянальны герой Тадэуш Касцюшка, прозвішча якога паходзіць ад імя Косця, таксама паходзіць з такой беларускай сям'і. А Манюшка, які нарадзіўся пад Менскам, а Міцкевіч? То ж у крыніцах з XIX ст. Міцкевіч рэгулярна выступае як Міцькевіч. Не ведаю, ад каго гэта залежала і чаму яно мела служыць, але застаецца фактам, што ў свядомасці палякаў ужо зусім зацёрты першапачатковы правапіс яго прозвішча. Не можам забываць, што многія з гэтых надзвычайных людзей, якія цяпер ззяюць у нашай культуры, паходзяць са спаланізаваных сем'яў. Сказаў бы яшчэ мацней - уклад гэтых спаланізаваных сем'яў у польскую культуру проста неверагодны...*

Пытаецца, чаму прозвішча Міцькевіч перастала падыходзіць Адаму, калі з гонарам насілі гэтае прозвішча ўсе яго продкі? Простая справа. Адам гэта ж геній, прарок, класік польскай літаратуры. Каму ж з палякаў магло падабацца тое, што так выдатны і заслужаны для польскай культуры чалавек з'яўляецца, хаця і спаланізаваным, але беларусам па паходжанню (прозвішча паходзіць ад прыгожага імя Міця, Міцька), і крыху спаланізавалі яго.

А і ў прадстаўнікоў слаўнай і моцна заслужанай для Польшчы каралеўскай дынастыі Ягелонаў ніяк не можна дашукацца польскай крыві, бо ў іх каралеўскіх жылах плыла толькі літоўска-русінская кроў. Але ў нас вельмі неахвотна гаворыцца і пішацца аб гэтым.

І гэта, па-мойму, вельмі дзіўнае, бо з другога боку, проста любуемся ў адшукоўванні польскіх кроўных сувязяў з выдатнымі людзьмі іншых нацыянальнасцяў. Пры кожнай нагодзе і без яе аж да нудоты любім паўтараць, хто са слаўных людзей свету сяго меў бацьку, хто маці, хто дзедку, бабку або пра..., пра... паляка, польку. Такія прыклады таксама можам множыць і множыць.

Калі, напрыклад, былы прэм'ер-міністр Грэцыі Папандрэу быў яшчэ пры ўладзе і славе, то ў нашых публікатарах аж кішэла ад сцвярджэння, што ў жылах гэтага выдатнага дзяржаўнага мужа плыве 25% польскай крыві. Хто гэта мог падлічыць і як, не ведаю, але відавочна плыве. І няхай сабе плыве на здароўе. Справа толькі ў тым, чаму так шчодра і ахвотна плыве польская кроў у незусім польскіх жылах, а зусім не хоча плысці беларуская кроў у спаланізаваных беларускіх жылах?!..

Ці даведаюцца аб усім гэтым вучні, і ці патрэбны ім такія веды? Вучні польскіх школ праўдападобна не даведаюцца. Польская афіцыйная літаратура, крытыка, гісторыя і школа ўнікаюць гэтых тэм або іх зусім інакш трактуюць. І гэта нядобра. А вучні беларускіх школ даведаюццца, бо ў беларускай літаратуры, крытыцы, гісторыі і школе даюцца такія адказы. І ў гэтым таксама перавага выпускнікоў беларускіх школ над сваімі калегамі з польскіх школ, бо веды такія вельмі патрэбны. Для супольнай карысці. Беларусам патрэбны для таго, каб пазбыліся яны комплексу непаўнацэннасці. Каб пераканаць іх, што мы не нейкія там бязродныя "выпердкі", якімі нас многія хочуць бачыць, а здольная нацыя, калі маглі даць свету такіх выдатных людзей. Палякам - як доказ, што сюды нас не цар прывалок, бо мы тут былі заўсёды. І былі не статыстамі, а актыўнымі ўдзельнікамі жыцця: разам з палякамі шчодра кроў пралівалі ва ўсіх мнагалікіх бітвах і войнах, якія ўвесь час вяла Польшча, стваралі польскую літаратуру, культуру, гісторыю. І яшчэ як! Адным словам, што ў Польшчы заўсёды мелі з нас, беларусаў, і маюць, адны толькі карысці.

Мы ў сваю чаргу просім зразумець і нас. Мы любім і шануем нашу супольную Айчыну не менш за палякаў; ахвярна ёй служылі, служым і служыць хочам; з'яўляемся яе патрыётамі і ў будучыні хочам імі быць. Але адначасова хочам быць таксама і беларусамі. Патрабуем пашаны да нас і нашых спраў.

Многім палякам, аднак, праз сваё няведанне гісторыі і ролі ў ёй беларусаў, цяжка зразумець, што, каб быць добрым, вартасным грамадзянінам нашай дзяржавы, зусім неабавязкова быць польскай нацыянальнасці і католікам у польскай версіі. Аджывае, на жаль, у нас і ўзрастае да рангу "рацы стану" памылковая і шкодная тэорыя, што сапраўдным і паўнавартасным грамадзянінам, урэшце патрыётам нашай дзяржавы можа быць, мае права быць, толькі католік, бо калі католік, то напэўна паляк. Нічога больш памылковага. Такая трактоўка сваіх грамадзян няраз ужо зашкодзіла сапраўднай польскай "рацы стану". Мела яна таксама нямалы свой удзел у падзелах Польшчы...

Ёсць і другі вельмі важны аспект справы, які таксама моцна стаіць за тым, каб польскія беларусы пачалі масава вывучаць родную мову. Наступае час, калі апрача маральнага абавязку перад сваёй нацыяй, яе мовай, культурай, беларусы могуць мець нарэшце і канкрэтныя карысці з гэтых ведаў і свайго беларускага паходжання.

Нарэшце, хаця памаленьку і з вялікімі цяжкасцямі, але ўсё ж такі адраджаецца незалежная Беларусь. Адраджэнне незалежнай Беларусі заўважыў увесь свет і кожны па-свойму пачаў рабіць сабе з гэтага факта вывады. У нашай Польшчы, напрыклад, у якой ужо амаль зусім не вывучаюць рускай мовы, многія кінуліся вывучаць беларускую. Апрача Варшаўскага універсітэта, беларускую мову пачалі вывучаць у Ягелонскім і абодвух люблінскіх універсітэтах, у духоўных семінарыях і акадэміях і многіх іншых інстытутах. Пачалі гарнуцца да вывучэння нашай мовы таксама афіцэры Войска Польскага... І ўсё ж гэта не з фантазіі, а з патрабаванняў часу.

Беларусь - найбліжэйшая суседка Польшчы, значыць - і партнёр у шырокім супрацоўніцтве, а гэта ў сваю чаргу патрабуе многіх, многіх спецыялістаў і ведання імі беларускай мовы, якіх дасюль не было і няма. Не будзь нашага Алега Латышонка, то не ведаю, ці ўдалося б дагаварыцца Польшчы з Беларуссю. А што будзе, калі ў Беларусі ўся адміністрацыя пяройдзе на беларускую мову? А яна ж хутка пяройдзе, і ўсялякія дагаворы і пагадненні высокага і ніжэйшых узроўняў будуць заключацца на беларускай мове. Да гэтага будзе патрэбная цэлая армія тых, хто валодае беларускай мовай. Вось чаму такое вялікае зацікаўленне Беларуссю, яе мовай, культурай эканамістаў у Польшчы і на свеце. Гэта - дадатковы вялікі шанц для будучай працы і кар'еры моладзі...

На вялікі жаль, зацікаўленне беларушчынай наглядаецца пакуль у нас толькі ў палякаў, нашыя ж беларусы, як наглядна відаць з вышэйсказанага, упарта такой патрэбы і такога шанцу яшчэ не бачаць. Вышукоўваюць усё новыя і новыя "аб'ектыўныя" прычыны, каб не арганізаваць беларускіх школ, каб не пасылаць сваіх дзяцей у беларускія школы ці класы. Сваю казырную карту бязглузда аддаюць іншым, разумнейшым. Не першы раз, зрэшты.

**В. АНТАНЮК**

# НАШЫ ДЗЯРЖАЎНЫЯ СІМВАЛЫ

Яшчэ ў старажытнасці, каб адрозніць сваіх ад чужынцаў у часе ўзброеных сутычак, ужываліся знакі-сімвалы. У славянскіх плямёнаў такімі знакамі былі кавалкі пераважна чырвонай тканіны на дрэўку - сцягі, або харугвы. Каб не блытацца з аднаколернымі сцягамі, на іх малявалі асабістыя княжыя знакі, што звычайна паходзілі з паганскай сімволікі.

Беларускія войскі і княская ўлада ў полацкім перыядзе нашае гісторыі таксама карысталіся чырвонымі харугвамі. Праўда, мы не ведаем, якія знакі-гербы былі на іх. Гэта маглі быць выявы хрысціянскіх святых ці полацкі варыянт "Трызуба".

У першай палове XIII стагоддзя на заходняй частцы Полаччыны пачало фармавацца Вялікае княства Літоўскае як працяг старажытнай дзяржаўнатворчай традыцыі беларускага народа. Успрыняўшы полацкую палітычна-эканамічную і культурную спадчыну, князі новае дзяржавы паранейшаму карысталіся чырвонымі сцягамі. А пачынаючы з Гедыміна іх дынастыя мела за герб відазменены "Трызуб" полацкіх Рагвалодавічаў, які пазней атрымаў найменне "Калоны" ("Калюмны").

Дзяржаўным жа (уладарным) гербам Вялікага княства з другой паловы XIII стагоддзя сталася выява збройнага рыцара на кані - "Пагоня". Лічыцца, што напачатку яна была гербам Полацка, а таксама Навагародка.

З пачатку XV стагоддзя на шчыце "Пагоні" ўжо сустракаецца шасціканцовы крыж з карацейшай верхняй перакладзінай. Такія крыжы былі тыповымі хрысціянскімі сімваламі на Беларусі ў XI - XIV стагоддзях. Першыя ж звесткі пра сцягі з выявамі "Пагоні" паходзяць з часу Грунвальдскае бітвы (1410 год).

З цягам часу ў Еўропе распаўсюдзілася традыцыя адзначаць на сцягу герб у выглядзе ўмоўнай каляровай палосы. Згодна з законамі геральдыкі, верхнюю частку сцяга павінны быў займаць колер гербавай выявы, а ніжэй змяшчаўся колер самога сцяга. Гэтак не пазней за пачатак XVI стагоддзя і ўзнік наш бел-чырвона-белы сцяг, дзе верхняя палоса - колер "Пагоні", сярэдні - спрадвечны колер самога сцяга, а ніжняя - колер рыцарскага шчыта на "Пагоні" (адзначым, што, акрамя белага, былі і іншыя варыянты колеру шчыта: чырвоны, сіні). Найбольш старажытная выява беларускага сцяга захавалася на карціне, прысвечанай пераможнай бітве нашых продкаў з маскоўцамі пад Воршай (1514 год).

Пасля акупацыі Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя Расейскай імперыяй "Пагоня" ўжывалася ў гербах некаторых беларускіх гарадоў і адміністрацыйных тэрыторый. Часам выкарыстоўваліся і колеры сцяга як знак адрознення вайсковых фармаванняў, рэкрутаваных з тэрыторыі Беларусі. Падчас антымаскоўскіх выступленняў "Пагоня" скарыстоўвалася паўстанцамі.

У 1918 годзе, з адраджэннем нашае дзяржаўнасці герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг становяцца дзяржаўнымі сімваламі Беларускае Народнае Рэспублікі. Пасля ўсталявання на Беларусі бальшавіцкага рэжыму ўжыванне нашай гістарычнай дзяржаўнай сімволікі жорстка каралася, ажно да працяглых тэрмінаў зняволення ў канцлагерах.

*"Звязда", н-р 115*

З дакументаў І З'езда беларусаў свету

# ЗВАРОТ

**удзельнікаў Першага з'езда беларусаў свету**
**да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**„Аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка".**

Дэлегаты і госці з'езда выказваюць занепакоенасць, што ўлады Рэспублікі Беларусь і горада Мінска дасюль не далі афіцыйны дазвол на ўстанаўленне мемарыяльнай дошкі на будынку ў г. Мінску, дзе была абвешчана БНР і які добра захаваўся.

Выказваем пажаданне і шчырае спадзяванне, што гэтая справа — відавочная дзеля карэннага дзяржаўнага інтарэсу Беларусі, гістарычнае памяці, нацыянальнае годнасці беларускага народа — будзе неадкладна і станоўча вырашана яшчэ да закрыцця з'езда.

Прынята аднагалосна,
8.07.93, г. Мінск

**УВАГА! НОВАЯ РУБРЫКА!**

# МАЯ ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА

*З чаго пачынаецца Радзіма? Пытанне зусім нерытарычнае, бо кожная любоў, а тым больш - любоў да Радзімы заўсёды мае свае вытокі. Для кагосьці яна пачынаецца з родных краявідаў, з дзіцячых успамінаў, для кагосьці, як сцвярджаецца ў папулярнай савецкай песні са шпіёнскага тэлесерыяла - "со старой отцовской будёновки, что както в шкафу мы нашли". Для мяне, тыпова гарадскога беларуса, яна пачалася з кніжак на роднай мове - пэўна, усведамленне сваёй нацыянальнай тоеснасці пачалося з друкаванага слова для ўсяго нашага пакалення. Увогуле, першая ў жыцці кніжка - як першая жанчына: можа мінуць шмат часу, можа быць мноства новых уражанняў, найлепшых, але першае - заўсёды незабыўнае.*

*Сёння "Ніва" распачынае новую рубрыку - "Мая першая беларуская кіжка". І вельмі хочацца, каб кожны, каму дарагое беларускае слова, падзяліўся на старонках газеты сваімі ўспамінамі. Ну, а сёння свае ўспаміны прапаную вам я.*

**ПРОСТА ЖАХ!**

**Янка Маўр. "Палескія рабінзоны".**

Атрымалася так, што беларускую мову ў школе я не вывучаў. Уявіце: цалкам зрусіфікаваны ўсходнебеларускі горад Гомель, клас, дзе амаль тры чвэрці - дзеці вайскоўцаў, якія па ўзору бацькоў да мовы народа, сярод якога жывуць і чый хлеб ядуць, ставяца, мякка кажучы, абыякава. А па тагачасных савецкіх законах дзеці вайскоўцаў мелі права не вучыць "нацыянальныя", як казалі, мовы. Таму і не было ў нас сталага настаўніка. Але на "пазакласных чытаннях" (была такая дысцыпліна) класная кіраўнічка параіла нам прачытаць што-небудзь з Янкі Маўра, і я, як узорны вучань, успрыняў тую параду за загад і ў той жа дзень узяў патрэбную кніжку ў бібліятэцы.

Сюжэт нескладаны - пераказваць не буду, але калі хтосьці забыўся, то хуценька нагадаю: усё амаль па Даніэлю Дэфо, толькі замест аднаго раннебуржуазнага Рабінзона - адразу два савецкія камсамольцы (дзея адбываецца напрыканцы 20-х гадоў), замест пустэльнае высцы ў Ціхім Акіяне - невялікі кавалачак сушы сярод палескай дрыгвы, ну, а дзікуноў-людажэраў з поспехам замяняюць "ворагі народа", якія, да ўсяго іншага, мэтанакіравана шпіёняць на карысць "буржуазна-памешчыцкай Польшчы". Карацей кажучы, нармалёвая прыгодніцкая аповесць (з ідэалагічным ухілам) для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту. Але мяне, пяцікласніка, савецкага піянера і юнага натураліста, на той час чамусьці ўразіла не ідэалогія, а зусім іншае: падрабязнае апісанне катаванняў беларускай фаўны. Савецкія камсамольцы аказаліся такімі бязлітаснымі, што напрыканцы мае сімпатыі цалкам былі на баку "шпіёнаў і дыверсантаў".

Зрэшты, мяркуйце самі:

"...і ён стукнуў птушку галавой аб дрэва. Потым гэтак жа забіў і зайца."

Чытаем далей: "У адным месцы ўбачылі вялікую змяю. Яна ляжала, скруціўшыся ўверх і млява варушылася. Віктар (камсамолец - Ул. А.) мігам падскочыў і забіў яе дубінаю."

Калі замала і гэтага, глядзім далей: "Праз некаторы час натрапілі на вожыка. Убачыўшы небяспеку, небарака зараз жа скруціўся ў клубочак. Хлопчы падышлі да яго і пачалі меркаваць, што з ім рабіць.

- Каб былі дома, то ўзялі б яго жывым на пацеху, а тут што з ім будзеш рабіць? Есці, мусіць, яго нельга, - разважаў Віктар.

- А трэ было б і яго як-небудзь скарыстаць, - напружана думаў Мірон (другі камсамолец - Ул. А.). - Могуць, напрыклад, спатрэбіцца, гэтыя іглы ў якой-небудзь справе.

- А ведаеш што? - схапіўся Віктар. - Калі ўзяць яго скуру ды абкруціць ёй канец нашай дубіны, дык будзе такая булава, што з ёй хоць на мядзведзя ідзі!"

Карацей, не дзіцячая аповесць, а сапраўдны інструктыўны дапаможнік па садызму... Кніжка тая паўплывала на маю свядомасць абсалютна натуральна: уражанне было такое агіднае, што я зарокся чытаць любую літаратуру на роднай мове, і наступны беларускі твор - гэта былі "Каласы пад сярпом тваім" Ул. Караткевіча - прачытаў толькі праз пяць гадоў...

* * *

А цяпер - міні-анкета: ЯКІЯ ТРЫ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ Я УЗЯЎ БЫ З САБОЙ НА НЯЗВЕДАНУЮ ВЫСПУ?

1. Беларускія народныя казкі.
2. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы.
3. Алесь Гарун, "Матчын дар".

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**

## ГАДЫ, ЗАПІСАНЫЯ ПЕСНЯЙ

Я ўсё яшчэ пад вялікім уражаннем сёлетняга святкавання Купалля ў Белавежы, дзе выступаў хор Гайнаўскага дома культуры. Спяваў ён, як і заўсёды, прыгожа, зладжана, з вялікім пачуццём рытму. Асаб-ліва вылучаліся мужчынскія галасы.

— Гайнаўскі беларускі хор існуе адзінаццаць гадоў. У ім 34 асобы, у тым ліку семнаццаць з іх спявае ў хоры ад пачатку яго існавання. Цікава і тое, што ў ім роўна па палове жанчын і мужчын. Першым яго дырыжорам і мастацкім кіраўніком быў Аляксандр Лукашук. Потым кіравалі Міхал Артышэвіч і Дзмітры Ціханюк. З 1989 года хор вядзе нястомная інструктар з Гародні Анна Стрыха. Спяваюць ды іграюць на акардэонах Мікалай Сідарук і Марк Мацюка. Рэпетыцыі адбываюцца кожны чацвер пасля абеду. У рэпертуары харавога калектыву ажно 67 фальклорных і сучасных песень. Песня яднае ўсіх аматараў калектыўных спеваў. Харысты — гэта, між іншым, настаўнікі, інжынеры, прадаўшчыцы, бухгалтаршы, шафёры і краўчыхі ды ўвогуле — людзі з тэхнічнай і эканамічнай адукацыяй, ва ўзросце ад 20 да 50 год. Усе жанчыны пражываюць у Гайнаўцы, а з групы мужчын некаторыя даязджаюць на рэпетыцыі са Збуча (Чыжоўская гміна) і з Падляўкова (Нараўчанская гміна). У хоры спявае двое дырэктароў: Мікалай Бушко (Гайнаўскі дом культуры) і Аляксандр Бандарук (Керамічная фабрыка ў Старым Ляўкове).

Гайнаўскія спевакі вядомы на Беласточчыне і ў Рэспубліцы Беларусь. Яны выступалі таксама з канцэртамі ў Сувальскім, Ломжынскім і Бяльска-Падляшскім ваяводствах, у Зялёнай Гуры. Хор ГДК — шматкратны лаўрэат конкурсаў „Беларуская песня".

Жадаем яму далейшай творчай працы на песеннай ніве!

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## РАНІШНІЯ ПАРАДЫ БЕЛАРУСКІМ ЖУРНАЛІСТАМ

Шаноўная рэдакцыя "Нівы"! Даходзяць да мяне весткі, што апошнім часам шмат хто з беластоцкіх беларусаў, а асабліва - з супрацоўнікаў рэдакцыі вашага глыбокашаноўнага тыднёвіка, пакутвае з абстыненнтнага сіндрома, карацей кажучы - з пахмелля. Як аматар усялякіх алкагольных вырабаў, я вельмі спачуваю падобным людзям, асабліва, калі бачу іх у такім стане зранку, а таму, каб не даць загінуць беларускай журналістыцы Беласточчыны, падаю некалькі парадаў з прафесійнага вопыту калег розных краін.

Увогуле, у свеце існуюць некалькі спосабаў пераадолець пахмелле. Іспанскія журналісты, напрыклад, прачнуўшыся зранку пасля сяброўскага застолля, першым чынам п'юць гарачую каву, папярэдне дадаўшы ў яе кроплю нашатырнага спірту. Журналісткі, якія маюць не такія моцныя нервы і страўнікі, дадаюць яшчэ і цытронавы сок. У скандынаўскіх літаратараў папулярны гэтак званы "марскі спосаб": да ніткі прывязваюць кавалак сырога мяса і паволі апускаюць яго ў горла хворага супрацоўніка рэдакцыі. Кажуць, што падобны спосаб вельмі дзейсны, але ён, напэўна, не падыходзіць журналістам "Нівы", дзе многія не маюць часам не толькі на мяса, але і на хлеб. Літсупрацоўнікі менскіх "тоўстых" часопісаў ведаюць іншы спосаб: трэба купіць той жа самы напой, што ўжываўся папярэдне, і выпіць некаторую колькасць. Але тут магчымыя спрэчкі, бо аб'ёмы чароўнае вадкасці, патрэбныя таму ці іншаму літаратару, розняцца перш за ўсё колькасна. У менскіх рэдакцыях справа канчаецца ў лепшым разе лютым запоем усяго творчага калектыву, а ў горшым - узаемавысвятленнем прафесійнай кампетэнтнасці з абвінавачваннямі супрацьлеглага боку ў скварнасці, бяздарнасці і няведанні сучасных літаратурных працэсаў. Французскія журналісты, якія, як сцвярджае статыстыка, стаяць на першым месцы ў сусвеце па спажыванню алкаголю (калектыў "Нівы", пэўна, лічыць гэта гнюсным паклёпам), на працягу наступнага пасля п'янкі дня ўжываюць выключна дыстыляваную ваду са слабым адварам зёлкавых траў. Кажуць, дапамагае. Ну, а рускія журналісты, якім не стае грошай не толькі на зёлкавыя травы, але і на добраачышчаную ваду, п'юць толькі агурковы ці капусны расол. Знаўцы, што працуюць у маскоўскіх выданнях, сцвярджаюць, што гэта значна карысней для арганізма, а галоўнае - танней, чым папулярны ў рэдакцыі "Нівы" спосаб зняцця ранішняга галаўнога болю - піва.

**ФРАНЦІШАК ХЛУС,**
**стары беларускі хронік**

Новыя вершы

*ЮРКА БАЕНА*

* * *

Хтосьці прачэсвае лес.
Ля крыніцы каліна,
Над ракою шыпшына
Агнямі лунаюць.

Пры дарозе, як фрэскі,
Асыпаюцца кветкі.
Ідзем мы міма.

У паветры звіняць травы.
Стынуць гукі і словы,
Сціхаюць размовы.

Цераз імглу і пыл,
Цераз горкі дым
Ідзем.
Ідзем маўкліва.

Зрэдчас, быццам выгнанец,
Сёй-той
Назад пагляне...

**КРЫК УНУТРЫ**

Некалі мне хтосьці
Расказваў пра чалавека,
Які без знаку голасу
У момант паражэння токам
У глыбіні сваёй істоты
Крычаў нясцерпным болем —
Аж разарвалася ў ім сэрца.

Сябры,
Калі б толькі енк пачулі,
Прыбеглі б,
Ратавалі б друга.
А так —
Пагас у муках,
Самотны за сцяною...

З той пары
У хвілях смутку і адчаю
Часта думаю
Пра незнаёмага мне чалавека —
Бездапаможны ён,
Крычаў усёй душою!..

*МІРА ЛУКША*

* * *

Двое згорбленых, у колкай цішыні,
п'юць старое моцнае віно;
яго хаваў адзін для аднаго,
зайздросна, не чакаючы ўжо госця...
У келіху шчарбатым, непрыгожым
рубін — сляза і кроў, і вернае маўчанне.

*БАРЫС РУСКО*

* * *

Ёсць першы і апошні момант
і стома
і ў стоме боль.
Ёсць першы і апошні бой
і радасць,
у радасці — страсць.
Ёсць першае і апошняе каханне
і шлях,
на шляху крыж.
Ёсць першы і апошні золак
і сонца,
а ў сонцы цень.
Ёсць першае і апошняе слова
і жэст,
а ў жэсце споведзь.

* * *

Ты — мой цвет жыцця,
Лісток вясновы на ветры кахання,
Брыльянт з персценя мараў,
Галінка любові на цокалі часу.
Свет без тваіх вачэй, як неба без зорак.
Свет без тваіх валасоў — голая пустыня.
Духмяная сенажаць асалоды, Твой золак
п'ю, як мёд ласкі
на парозе храма.
Адчыню дзверы насцеж
і ўбачу Афрадыты твар.
Ахоўнікі, зніміце ўсе пячаці,
хай загарыцца свяшчэнны агонь!
Ты — віно чырвонае ўва мне,
ува сне смелым — галубка ў палёце,
спеў лютні ў здзейсненай надзеі,
крык шчасця ў крыштальным золаце.
Свет без Тваёй усмешкі —
чорная вуаль.
Свет без Тваіх крокаў —
глыбы над прорваю,

Крынічка жывой вады, дазволь
піць Цябе жменяй.

# Зорка

## Старонка для дзяцей

*ЮРАСЬ СВІРКА*

## ЖНІВЕНЬ

Шчодра жнівень замыкае лета:
Завяршыў мурожныя стагі,
Песнямі птушынымі сагрэты
Водзіць развітальныя кругі.
Там, дзе белы мох,
І там, дзе верас, -
Выпасы тугіх баравікоў.
Лес ніколі не зачыніць дзверы,
Запрашае ў госці грыбнікоў.
Час такі жаданы, незабыўны.
Ружавеюць крохкія плады.
Выйдзі і паслухай ноччу жніўнай,
Як скрыпяць ад яблыкаў сады.
Туманы дымяцца па лагчынах,
Беляць разасланыя ільны.
І паверыць нават немагчыма,
Што ўжо крокі восені чутны.
Ды напомніць жураўліны голас
Пра адлёт, што кліча ўдалячынь.
І да верасня, і да званка у школе
Лёгка дні на пальцах палічыць.
Жнівень за аблокамі знікае.
І яму пара ўжо адпачыць.
Ён спакойна лета замыкае,
Верасню даверыўшы ключы.

*Алеся Іванюк з Гданьска з цёцяй Ленай у Наваградку на... "каранацыі Міндоўга".* **Фота М. Лукшы**

## ЛЕГЕНДЫ І НАЗВЫ

ЁСЦЬ НАВУКА - тапаніміка. Яна вывучае назвы гарадоў, вёсак, рэк, азёр. Дужа цікавая навука. Мо хто і з вас, як вырасце ды вывучыцца, будзе займацца тапанімікай. А пакуль што, каб заахвоціць вас, перакажу некалькі легендаў.

**МАГІЛЁЎ.** Кажуць, на тым месцы, дзе цяпер прыгожы абласны цэнтр Магілёў, шумела векавая пушча. А ў пушчы той жыў разбойнік Машэка. Дрымучыя лясы, задумлівая рака Дняпро ды неба над галавой былі для яго домам і ўцехай.

Жах наводзіў Машэка на ўвесь край. Ніводнага падарожніка не прапускаў, забіваў.

А сам у начной цішы горка плакаў па любай Прадаславе. Яго нявесту князь сілком забраў у свой замак. Туды было не прабрацца Машэку. Вось і жыве ён у лесе разам з сябрамі-разбойнікамі. Апрануты ў воўчыя скуры, помсціць усім, хто асмеліцца завітаць сюды, у пушчу.

Аднойчы сядзеў Машэка на камені, звесіўшы галаву ў журбоце, ды раптам чуе конскі тупат. Ён рынуўся да вазка і ледзь не аслупянеў. Там сядзеў князь з яго Прадаславай.

Машэка ў гневе забіў князя, а любую прынёс у сваё логава. Але гэта была ўжо не тая Прадаслава, якую ён бязмежна кахаў. Яна прывыкла да раскошы. І калі знясілены Машэка прылёг адпачыць, Прадаслава забіла яго нажом.

Сябры-разбойнікі пахавалі іх разам: забітага Машэку і жывую Прадаславу. Насыпалі над імі курган і назвалі Магілаю Льва.

Янка Купала выкарыстаў гэту легенду ў сваёй паэме:

*На ёю з часам дрэвы палі,*
*І горад вырас, як з зямлі,*
*Яго Магілевам назвалі,*
*Бо йнакш прыдумаць не маглі...*

**МАЗЫР.** Паданне прыпісвае пачатак будаўніцтва Мазыра двум братам, якія пасяліліся на крутых берагах Прыпяці, каб здабываць рыбін тлушч. Старэйшы - вырадак, узненавідзеў малодшага - статнага малойца, прыгажуна. За што? Ды за тое, што маладая суседка пакахала малодшага брата і той усчалася паміж братамі бойка. Старэйшы папрасіў дапамогі ў чараўніцы, якая жыла непадалёку, на высокай гары. Чараўніца як убачыла прыгажуна, дык і пра чары забылася. Загадала прыпыніць бойку. А старэйшы брат усё патрабаваў: "Мой жыр! Я не ўступлю ніводнай меркі! Пакрыўдзілася чараўніца, што яе не паслухаўся старэйшы брат, узмахнула чарадзейным мячом, і гара распалася на дзе часткі. Праваліўся ў бездань старэйшы брат і ўсё крычаў:

- Мой жыр! Мой жыр!

- Не, мой жыр! - адказваў малодшы. Мой жыр - Можыр, Мозыр. Так нібыта ўзнікла назва горада. Ёсць рэчка, якая ўпадае ў Прыпяць. Яе называюць Монжыр'е.

**ІВЯНЕЦ.** Там, дзе цяпер горад Івянец, у глыбокай старажытнасці былі балоты і цёмныя лясы. Аднойчы гэтай мсяцовасцю праязджала княгіня дый угрузла разам з брычкай і коньмі. А людзі там яшчэ не жылі. Ратаваць няма каму. "Што рабіць?" - прыйшла ў роспач княгіня. Аж раптам бачыць - нейкая жанчына пляце вянок з прыгожых кветак.

- Дапамажыце мне выехаць, - папрасіла княгіня.

- Калі згодзішся засяліць гэтыя мясціны народам - выратуешся, - адказала незнаёмая.

- Згодна.

Брычка з коньмі як быццам сама выскачыла з балота. Радасная княгіня пытаецца ў жанчыны:

- А як жа назваць вашу мясцовасць?

- Бачыш, у маіх руках вянец, - адказала дзіўная жанчына. - Вось і назаві гэта месца Івянцом.

З тых часоў і ёсць на Беларусі горад Івянец. Ён славіцца народнымі ўмельцамі па кераміцы, вышыўцы.

**НЯСВІЖ.** Пра назву горада ходзіць некалькі паданняў. Прыгадаю адно з іх.

Даўным-даўно тут было паселішча крывічоў. Мужныя былі гэта людзі, смелыя воіны. Ніхто з заваёўнікаў не мог авалодаць іх крэпасцю. Нельга было нават заслаць лазутчыкаў - віжоў. Казалі: "Несть виж" (няма віжоў). Два словы зліліся ў адно і далі назву будучаму гораду.

Гэта легенда падабалася Якубу Коласу, які вучыўся тут у настаўніцкай семінарыі.

Усе вы жывяце ў гарадах і вёсках, якія маюць пэўную назву. А ці задумваліся, адкуль пайшла назва вашага паселішча?

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

*ЮРКА ГОЛУБ*

**У БАРЫ ГРЫБЫ БЯРЫ**

У бары грыбы бяры.
Бор напоўніць кошык,
Бо сяголета ў бары
На грыбы раскоша.

На паляне і ў лагу,
Скрозь, дзе баравіны,
Паручыцца я магу -
Быць грыбы павінны.

Кожны мае свой убор
З шапкай каляровай.
Над грыбамі шэпча бор,
Побач з ім - дуброва.

І цяпер гукае тут
З захапленнем рэха,
Каб падняць птушыны гурт
За лясныя стрэхі.

Заяц п'е з травы ваду.
Стомленыя ногі
Непаспешна нас вядуць
Да лясной дарогі.

Ліст блішчыць, як медны грош.
І ніхто не тоіць:
Хоць і цяжка несці кош,
Радасна затое!

*ПЯТРО СУШКО*

**ЧМЯЛЁВА ГУШКАЛКА**

Над палянкаю лятаючы,
Верасовы мёд збіраючы,
Прытаміўся
Чмель-бухмацік,
Захацеў
Крыху паспаць ён.
Апусціўся
Чмель на кветку,
Задрамаў там неўпрыкметку.
Ну, а кветачка лагодная
Ціха
Чмеліка пагойдвае.
Сняцца сны яму
Чароўныя,
Сняцца соты,
Мёду поўныя.

*ХВЕДАР ГУРЫНОВІЧ*

**НЕ ДА ЖАРТАЎ**

Мы на пасецы былі,
Пчол падглядвалі ў вуллі.
Дзед мой вечка падымаў,
Браў у рукі свой дымар,
І гулі, злавалі пчолы.
Але дзед казаў: - Нічога!
Ён папыхкваў дымарком,
Сціхамірваў пчол дымком.
Пэўна, ён замову ведаў:
Не кусалі пчолы дзеда,
Хоць снавалі па руках...
Ах, які салодкі пах
Плыў з вулля ад спелых сотаў -
Пахла садам і асотам,
Пахла грэчкаю і лесам,
Лугавым пчаліным летам.
Дзед нажом адрэзаў з рамы
І падаў мне з воскам прама
Скрыль бурштынавы бліскучы:
- На, паласуйся, унучак...
Я да рота мёд паднёс,
А пчала джганула ў нос.
Так шчыміць, хоць плач, дый годзе.
Дзед жартуе:
- Вусы ў мёдзе?..
Не да жартаў толькі мне:
Нос, як бульбіна, ў мяне.

# ЖНІВЕНЬСКІЯ ЛУГІ

Не магу чамусьці без хвалявання глядзець на жнівеньскія лугі. Адчуваецца ў іх у гэты час нейкая незразумелая табе прыціхлая задуменнасць і прыгажосць.

Высокія травы скошаны. На месцах шырокіх пракосаў па ўсёй пойме ракі, наколькі можна ахапіць вокам, узняліся стагі духмянага сена.

Вось адзін. Паглядзіш збоку на яго, а ён быццам бронзавая статуэтка на зялёным аксаміце стаіць. Побач - стог-волат: дзябёлы, з заліхвацка ссунутай набок сабалінай шапкай. А вось стог-дзядок - нізенькі такі, каржакаваты, з гарбінкай на спіне.

Добры стог скідаць умее далёка не кожны. Гэта на высокім месцы. А на нізіне, якая затапляецца восенню вадою, патрабуецца ўдвая больш умельства. Тут раней варта зрабіць трывалае навясное стажар'е з лазовых альбо альховых галінак. І ўжо толькі тады закладваецца яго аснова. Такі стог збоку здаецца падвешаным да неба. Пад яго можна падлезці дзесятку чалавек і цудоўна там правесці ціхую жнівеньскую ноч альбо схавацца ад непагадзі.

Надзвычай шмат на жнівеньскіх лугах розных птушак. Ці то шэрая варона, аб чымсьці задумаўшыся, на жэрдцы стога сядзіць. Альбо ястрабок з вышыні мышэй высочвае. Даверлівы канюк насвіствае, пазіраючы па баках.

Тут, на лузе, можна сустрэць шпакоў, галак, розных кулікоў, кнігавак, качак, чапляў, плісак. Шпакі, разам з варонамі і галкамі, вялікімі чародамі пералятаюць з аднаго месца на другое, адшукваюць у мяккай глебе лічынак розных насякомых і чарвей. Так увесь дзень і трымаюцца на лузе. Надвячоркамі ж усе гэтыя мнагалікія чароды і чародкі збіраюцца ў адну агульную, у якой нярэдка бывае да тысячы птушак і болей, уздымаюцца ў неба і ляцяць на ноч у густыя непралазныя зараснікі к лазняку за ракой. Ад вялікага зборышча птушак лугавое паветра злёгку, здаецца, пагойдваецца.

На больш нізкіх месцах можна ўбачыць і белых буслоў. З году ў год, перад адлётам у цёплыя краі, з усіх навакольных вёсак і вёсачак збіраюцца на раскошныя прыбярэзінскія лугі.

Аднойчы я іх за жанчын палічыў, якія, як мне падалося, зграбалі сена. І як жа я быў здзіўлены, калі гэтыя "жанчыны" раптам узмахнулі крыламі і разам узняліся ў паветра.

Перад вялікай і адказнай дарогай на поўдзень, на жнівеньскіх лугах буслы нагульваюць тлушч, трэніруюць маладыя крылы. Дзеля гэтага яны цёплымі пагодлівымі днямі збіраюцца на галавакружную вышыню і там, аж пад самымі аблокамі, раскінуўшы пругкія крылы, вялікімі кругамі лунаюць над парыжэлымі лугамі і пожнямі.

Шмат у жніўні на ўбраных лугах жывёлы. Час ад часу то з аднаго боку, то з другога чуваць залівісты спеў трубы альбо гучны, патрабавальны крык пастухоў. Уся жывёла ўкормленая, гладкая. У гэты час, па ўсёй пойме лугавое паветра цудоўна пахне цёплым каровіным малаком і духмяным сенам.

**РЫГОР ІГНАЦЕНКА**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

На ўроку настаўніца расказвае пра насякомае, якое жыве толькі адзін дзень. Раптам з апошняе парты чуецца радасны крык:

- Вось класна! Усё жыццё - дзень нараджэння!

* * *

- Вася, скажы мне, што такое "сінонім".

- Сінонім - гэта слова, якое скарыстоўваеш, калі не ведаеш, як правільна напісаць іншае.

* * *

- Скажы, Янка, адкуль ты ведаеш, што Зямля круглая, на чым яна трымаецца і як ты гэта можаш даказаць?

- А што тут мне даказваць? Я гэтага не сцвярджаў!

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## АДГАДАНКА



*Спалучы кропкі ад 1 да 64 і ўбачыш, з кім выступае ў цырку малы дрэсіроўшчык.*

# "ДРУГІ СПАС"

Другі Спас, ці проста Спас, Іспас - самы вядомы і шанаваны ў народзе. Звязваўся перш за ўсё з паспяваннем яблыкаў і асвячэннем іх у царкве. Вельмі пашырана павер'е, што да Спаса няможна есці яблыкаў, бо будуць дзеці паміраць. Забарона есці перад Спасам яблыкі не менш дзейнічала на тых людзей, у якіх ужо памiралі дзеці. На тым свеце, казалі, Бог будзе раздаваць на Спаса яблыкі (як і іншую садавіну), а таму дзіцяці, чыя маці каштавала іх раней дазволенага тэрміну, пачастунку не дастанецца. На Капыльшчыне пасля асвячэння ў царкве людзі неслі яблыкі на могілкі, дзе клалі ўсём радні па яблычку.

"Спас" тлумачылі і па сугуччу з дзеясловам "с п а ц ь". Сцвярджалася, што зямля ў гэты дзень спіць; трывожыць яе сон, а таму і працаваць - нельга. І ўсё ж нездарма жыла прыказка: "Спас - усім рабочы час". Свята не давала забыцца, што доўга адпачываць няма як: "Спас не гуляець, каня сядлаець, поле аб'язджаець, копы аблічаець, у гумно вязець", "па полі ходзіць... раскладаець: гэта на семя, гэта на емя!", "сціргы віець, гнаі возіць", "А стары Іспас - старэнькі дзядок, на восець садзіў, жыта малаціў", "... едзець у поле ды зямельку мяшаець, прыгатаўляець". Сустракаюцца і памяншальна-ласкальныя звароты: "Святы Спасік, пільны часік, папар строіць, жытцо малоціць".

Ад другога Спаса пачыналася сяўба азімага жыта. На Палессі бортнікі падглядалі пчол і даставалі мёд. Згодна са звычаем, калі пчаляр пашкадуе ў гэты дзень даць мёду хоць аднаму з дзяцей, прысутных пры гэтым, пчолы прападуць. У народзе Спас лічылі днём адлёту буслоў. Калі буслы пачыналі рыхтавацца ў вырай за тыдзень перад Спасам, значыла, што раней надыдзе зіма і будзе яна марозная, а вясна цяплейшая; калі пасля Спаса - восень будзе цёплая, зіма позняя, вясна халодная. Адлёт буслоў адназначна сведчыў пра надыход восені, а прыказка нагадвала: "Спас - бяры рукавіцы ў запас".

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

## АРОЛ

Выбіраюцца з усёй грамады дзяцей большая дзяўчынка маткай птушанят і дужэйшы хлопчык арлом - хапаць птушанят. Дзеці становяцца за маткай у рад і трымаюць адзін аднаго рукамі за плечы, а арол становіцца ўбаку. Цяпер матка бярэ кій у рукі і, размахваючы ім, крычыць: "Акыш, арол! Акыш, арол!" Арол хапае апошняе птушаня, тузае туды-сюды і адрывае, затым адрывае такім жа спосабам другое, трэцяе, пакуль не застанецца адна матка. Тады матка хаваецца сярод дзяцей і адтуль крычыць: "Арол, арол, на куку! Арол, арол, на куку!" Дзеці ў гэты час хутка становяцца вакол маткі парамі, счэпліваюць між сабой рукі накрыж, замыкаючы подступы да маткі. Арол, налягаючы грудзьмі і рукамі, ірве гэтыя замкі, і, як парве іх, гульня канчаецца.



*У Аленкі няма свайго сябра-сабачкі...* **Фота М. Лукшы**



# РАЗУМНАЯ ГУМКА

*КАЗКА*

На тумбачцы ляжала школьная сумка. Раптам засцежка-маланка на сумцы раз'ехалася і з яе выскачылі асадка, аловак, фламастэры і сшытак.

- Бяда! - закрычала асадка. - Да нас падлажылі гумку.

- Жах, жах! - падтрымалі асадку фламастэры.

А сшытак гнеўна зашамацеў белымі лістамі:

- Выгнаць яе, каб і следу не было!

Аловак паглядзеў на гумку, якая высунулася з сумкі, і сказаў:

- Пачакайце, а, можа, яна сцірае толькі дрэннае.

Ён напісаў у сшытку некалькі слоў і загадаў гумцы:

- Чытай уголас!

- *Вайна*, - прачытала гумка першае слова.

Яна аж закалацілася ад жаху. Уявіла страшных жалезных птушак, якія лятаюць над зямлёй. Іх так многа, што ні адна жывая птушка не можа ўзняцца ў неба. Не, толькі не гэта!

І гумка пачала сціраць страшнае слова.

- Бачыце, гэта разумная гумка, - узрадаваўся аловак.

А сшытак першы павініўся:

- Ты ўжо не крыўдуй на нас, гумка.

- Ды я і не крыўдую, - усміхнулася гумка і зноў спахмурнела: убачыла ў сшытку яшчэ адно страшнае слова.

- *Гора*, - прачытала гумка і заспялася: - Сатру гэта слова!

- Пачакай, - спыніў яе аловак, - я выпраўлю памылку.

І ён акуратна дапісаў літару "д".

- *Го-рад*, - па складах прачытала гумка. - Горад! - радасна паўтарыла яна і пачала падскокваць. - Я бачу святочныя агні, прыгожыя бульвары, шчаслівых дзяцей!..

Асадка, аловак і фламастэры паважліва паглядзелі на гумку і ўзяліся за працу. Адно за адным з'яўляліся ў сшытку добрыя, светлыя словы: *мама, неба, сонца, кветкі.*

- Малайчыны вы, сябры, ведаеце мноства цудоўных слоў, - сказала гумка. - Але ёсць яшчэ адно, самае дарагое.

- Што гэта за слова? - запыталі ўсе разам.

- *Мір!* - сказала гумка.

Асадка вялікімі літарамі напісала гэта слова ў сшытку. А фламастэры і аловак пачалі маляваць рознакаляровых галубоў. І хутка ў неба ўзнялася цэлая чародка птушак. Яны луналі высока над зямлёй, сачылі, каб ні адна жалезная птушка не панесла ў свет смерць.

А сябры весела гаманілі і смяяліся. Яны малявалі ўсё новых і новых галубоў.

**ВОЛЬГА ДЗЯДКОВА**

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 16 ЖНІЎНЯ

16.30 Навіны. 16.40 Мультфільм. 17.00 Спасціжэнне ісціны. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Дзецям Чарнобыля. 18.35 Мастак А. Паслядовіч. 19.10 Жыццё з песняй. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 Марыя Сортэ ў Мінску. 22.20 НІКа.

### АЎТОРАК, 17 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Конны спорт. 8.00 Марыя Сортэ ў Мінску. 9.15 „Дон Сезар дэ Базан". Мастацкі фільм. 11.30 Тэлефільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Капітан Нэма". Мастацкі фільм. 1-я серыя. 13.55 Мультфільм. 14.10 Дакументальны фільм. 14.40 Літаратурныя сустрэчы. 15.25 Сізбар-топ-10. 16.30 Навіны. 16.40 Кінанарыс. 16.50 Што знайшлі мы ў лесе? Перадача з Брэста. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 Мост. 18.40 Рынак і канверсія. 19.20 Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.30 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Серыял. 21.15 Урачыстасці ў Лідзе, прысвечаныя Дню незалежнасці. 22.40 НІКа.

### СЕРАДА, 18 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Харэаграфічныя навелы". Фільм-канцэрт. 8.10 „Дзяжурная аптэка". 8.40 Дак. фільм. 9.40 „Ідзе каханне па свеце". Фільм-канцэрт. 11.10 Мастацкі фільм. 12.20 Мультфільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Капітан Нэма". 2-я серыя. 13.50 Мультфільм. 14.00 „Танцуе Людміла Семяняка". Фільм-канцэрт. 14.55 Дак. фільм. 15.25 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё. 16.30 Навіны. 16.40 Асаблівы выпадак. 17.05 Дак. фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 „Пяць зорак". Тэлегульня. 19.10 „Развітанне з Сусветам...". Вакальны цыкл Р. Шумана. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". 21.15 „Сэрцы чатырох". Маст. фільм. 22.45 НІКа.

### ЧАЦВЕР, 19 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Дак. фільм. 7.55 „Дзяжурная аптэка". 8.25 „Сэрцы чатырох". Маст. фільм. 9.55 „Мільянерка". Фільм-спектакль. 12.30 Навіны. 12.40 „Капітан Нэма". 3-я серыя. 13.45 Дак. фільм. 14.10 „Лятучая мыш". Музычны фільм. 16.30 Навіны. 16.40 Знаёмства з дзіцячым ансамблем танца „Журавінка" з Белаазёрска. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо... 18.15 Здароўе. 18.45 Гаспадар. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". 21.15 Студыя „Сэнс" у Бярозаўскім раёне. 22.55 НІКа.

### ПЯТНІЦА, 20 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Казкі па-бухарску". Фільм-канцэрт. 8.00 „Дзяжурная аптэка". 8.30 Дак. фільм. 9.20 Ганна Герман. Лёс і песні. 10.20 „Скандальнае здарэнне ў Брыкмілі". Маст. фільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Твар на мішэні". Маст. фільм. 14.55 Мультфільм. 15.20 „Карэл Гот". Музычны фільм. 16.30 Навіны. 16.40 Дак. фільмы. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Метраном. 19.05 Роднае слова. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Стоп-кадр. Крымінальная хроніка. 21.05 „Загадка адасобленага матэля". Маст. фільм. 22.25 НІКа.

### СУБОТА, 21 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Загадка адасобленага матэля". Маст. фільм. 9.00 Паказвае Віцебск. Мастацка-публіцыстычная праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Урокі здароўя. 10.50 Далёкае — блізкае. 11.25 Знаёмцеся, ... 12.05 Танцавальны марафон. 13.20 Мультфільм. 13.40 Спявае А. Міронаў. 14.35 Паэтычная гасцёўня. 14.55 „Аэліта, не чапляйся да мужчын". Маст. фільм. 16.20 Грай, гармонік! 17.40 Шматгалоссе. 18.40 Сізбар-топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Сяджу на галінцы, і мне добра". Маст. Фільм. 23.05 НІКа.

### НЯДЗЕЛЯ, 22 ЖНІЎНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека. 7.55 „Справы вайсковыя". 8.40 „Фуэтэ". Маст. фільм. 10.15 Асілак. 11.15 Тэлебом. 12.05 Далёкае — блізкае. 12.40 „На парозе жыцця". Маст. фільм. 13.50 Таямніца. 14.20 Мультфільм. 14.30 „Вячэрні лабірынт". Маст. фільм. 16.00 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. „Дынама" (Мінск) — КІМ (Віцебск). 17.50 Жыць — значыць пець... 18.20 Жыве ў сэрцы Беларусь. Знаёмства з патомкам старажытных беларускіх радоў А. Багдановічам. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.05 „Студэнцкія канікулы". Маст. фільм. 21.25 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мая ўнучка (ёй дзевяць гадоў) уначы плакала. Спытала я ў яе, што ёй кепскага прыснілася. А яна мне гаворыць, што апынулася ў сітуацыі, у якой не хацела б апынуцца. Быццам была яна ў дзіцячым доме (у сапраўднасці ёсць у яе бацькі, дзед і дзве бабкі). Сірата. Аднойчы вельмі моцна захварэла. Не памятае, што гэта было — ці нервовыя хваробы, ці ныркі, але выхавацельніца выклікала „хуткую дапамогу" і яе палажылі ў бальніцу. Мела падчэпленыя да носа нейкія трубкі, вакол яе было шмат розных апаратаў.

Мінула тыдняў пяць. У бальніцу прыйшлі нейкія людзі, муж і жонка, каб выбраць сабе дзіця з сіраціінца. Малая не была ўпэўнена, што гэта прыйшлі па яе, але мела ціхую надзею, што выберуць менавіта яе. І высветлілася, што яны хацелі якраз узяць маю ўнучку. Але нешта агледзеліся, што яна занадта хворая, і не ўзялі яе. І тады малая пачала плакаць горкімі слязьмі.

Але мінула яшчэ пару тыдняў, і тыя людзі пайшлі ў сіраціінец, узялі адзежку маёй унучкі і прыйшлі ізноў у бальніцу, каб ужо забраць яе.

І вось малая ўжо ў іх дома. Высветлілася, што была гэта невялікая, але вельмі прыгожая і ўтульная хатка.

Астроне! Што мог бы абазначаць гэты сон маёй маленькай?

**Анна**

Анна! Абазначае ён тое, што і шчаслівых дзяцей не абмінаюць цяжкія роздумы аб жыцці і людскіх няшчасцях.

Але, калі падысці да сну сімвалічна, дык прадвяшчае ён тваёй унучцы добрае. Глядзі сама. Яна ж была ў бальніцы, а гэта б у сапраўднасці абазначала спакой і задавальненне. Плакала ў сне — а гэта радасць у жыцці. Тая прыемная, утульная хатка, куды прывезлі яе новыя бацькі, таксама абазначае добрае.

**АСТРОН**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. імя армянскіх цароў з дынастыі Багратыдаў, 8. возіць грузы на конях, 9. звычай, 10. хімічны элемент н-р 24, 11. дробныя пацеркі для ўпрыгожання, 13. збудаванне для сена, 15. работа рэпарцёра, 16. не цётка, 20. вялікі гнеў, 22. стадыён у Рыо-дэ-Жанейра, 23. вестка, 27. перасоўны лялечны тэатр у старадаўняй Беларусі, 29. кладоўка пры доме, 30. нядродны бацька, 31. зуб дзіка, 32. касцяк збудавання, 33. возера ў Афрыцы, 34. тэакратычная дзяржава на Блізкім Усходзе.

**Вертыкальна:** 1. гульня ў 28 пласцінак з вочкамі, 2. матэрыял на кнігі, 4. невук, які выдае сябе за знатака, 5. памідор, 6. колькасць экземпляраў выдання, 7. брус паміж вушакамі, 12. працаўнік рэдакцыі, 14. наёмная работніца ў памешчыка, 16. не мае яго Беларусь, 17. сузор'е паўночнага неба, 18. невялікі драпежны звярок, 19. над зямлёю, 21. танцоўшчыца, 24. Оскар, англійскі пісьменнік (1856-1900), 25. крыклівае дзіця, 26. трапічная расліна з мучністым плодам, 27. пасудзіна з пукатых драўляных клёпак, сціснутых абручамі, 28. аўтамабіль для перавозкі пасажыраў.

ш

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 26 н-ра.**

**Гарызантальна:** Ікар, верас, адклад, гром, патоп, абарог, Тамілнад, ганак, Кацярына, талісман, увага, бандытка, палена, Алжыр, брэх, жырафа, Гаяна, твар.

**Вертыкальна:** Керала, балота, карбідка, раман, склад, чарот, Пакістан, Баня-Лука, Гётэ, нуль, Рыга, Фама, антытэза, Валдай, грыўня, Парыж, Белаз, набат.

*МІНІ-ДАВЕДНІК*

**Ашот - імя армянскіх цароў IX-X ст.ст.**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### ТРОІЦКІ ПІРОГ

*Цеста:*
*3 1/2 шклянкі мукі,*
*2 дэкі дражджэй,*
*2 лыжкі алею.*
***Фарш:***
*паўкілаграма свежых грыбоў або 10 дэкаў сушаных,*
*1 цыбуліна,*
*1 лыжка мукі,*
*1 лыжка тлушчу,*
*мускатны арэх, перац, соль.*

Дрожджы развесці цёплай вадой, дадаць жменю мукі, паставіць, каб вырасла. Калі росчын вырасце, дадаць рэшту мукі, алей і такую колькасць цёплай вады, каб атрымаць даволі цвёрдае цеста.

Грыбы памыць, зварыць у 2 шклянках вады, адцадзіць (адвар не выліваць!). Цыбулю пасячы, падсмажыць на тлушчы, пасыпаць мукой, перамяшаць. Дадаць прыправы, яшчэ хвіліну патрымаць на агні.

З вырасшага цеста зрабіць круглы ці прамакутны блін. Змазаць яго фаршам, пакідаючы з берагоў непамазаныя палоскі шырынёю 5—8 см. Тыя часткі цеста загарнуць у сярэдзіну. Палажыць пірог на бляшку, спячы ў гарачай духоўцы. Падаваць гарачым, паліўшы адкрыты фарш адварам з грыбоў.

**ГАСПАДЫНЯ**

## НЕ ЗАХАПЛЯЙЦЕСЯ ТЭЛЕБАЧАННЕМ...

„Англічане паступова ператвараюцца ў нацыю хворых людзей, таму што больш чым палавіну часу праводзяць перад сваімі тэлевізарамі", — такі вывад зрабілі тамашнія вучоныя.

Болі ў паясніцы, пагаршэнне кровазвароту, дэфармацыя пазваночніка — вынікі захаплення жыхароў Брытанскіх астравоў тэлебачаннем. З гэтай жа прычыны, лічаць вучоныя, у Англіі расце колькасць поўных людзей. Часта з мэтай эканоміі сродкаў брытанцы гадзінамі сядзяць ля блакітнага экрана, замест таго, каб пайсці ў кіно або тэатр.

У якасці аднаго са сродкаў барацьбы з хваробамі, якія спадарожнічаюць аматарам тэлебачання, вучоныя раяць „не радзей чым кожныя 45 мінут уставаць са сваіх крэслаў і рабіць размінку".

**(а-ця)**

## „САКСЫ"

Мела быць цудоўна. Аля рашыла паехаць на год у Амерыку, каб зарабіць долары на дом. Малую Анюту адвезла да маці. Мужа пакінула — працаваў ён у бюро, пры камп'ютэрах.

Калі Аля выязджала, уся сям'я сабралася на вялікай гасціне. Правялі яе на цягнік у Варшаву, а стуль мела самалётам падацца ў Нью-Йорк.

Два месяцы пісьмы прыходзілі часта. Долары, якія Аля прысылала, Рысь клаў на ашчадную кніжку. Потым лісты парадзелі, але долары прыходзілі пастаянна. Калі Рысь запытаўся, чаму жонка піша так рэдка, Аля адказала, што паштовыя маркі вельмі дарагія.

Рысь дбаў пра дом, ні з кім не сустракаўся. Знаёмыя смяяліся з яго, што жыве як манах. Рысь цярпліва чакаў прыезду жонкі, бярог грошы, ашчаджаў.

Урэшце прыйшоў той доўгачаканы дзень. Прыехалі бацькі Рыся і Алі з Анюткай.

Аля прыехала, але не сама. Прыехала на добрай машыне з прыгожым неграм.

— Гэта мой нарачоны, — прадставіла мужчыну аслупянелай сям'і. — Анютку я забіраю, а гэтыя долары няхай будуць табе, Рысь, на пачатак новага жыцця.

— А няхай яны прападуць! — крыкнуў муж.

— Ай, Аля, што ты нарабіла! — загаласіла маці.

— Мама, я цяпер шчаслівая. Зараз жа едзем назад, я ўжо ўсе справы аформіла.

Аля забрала дачку з рук маткі і, сказаўшы: „Бывайце", забралася ды пайшла.

— Вось табе і шчасце! — мармытаў Рысь.

— Ай, што ж ты, Аля, нарабіла! — уздыхнула свякруха.

— Чаго ж я дачакалася ад уласнай дачкі?! — лямантавала маці. — Што гэтыя долары нарабілі!

**АЎРОРА**



**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА "СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Красамоўства** - мастацтва вусна запэўніць дурня, што белае гэта чорнае ці якое там яшчэ. Гэтае мастацтва ўключае таксама дар даказаць, што любы колер можа быць белым.

**Лухта** - крытыка супраць гэтага цудоўнага слоўніка.

**Людажэр** - ласун старой школы, які захаваў простыя густы і прытрымліваецца простай дыэты дасвінніннага перыяду.

**Магнетызм** - тое, што ўздзейнічае на магніт.

**Магніт** - рэч, на якую ўздзейнічае магнетызм. Два вышэй дадзеныя тлумачэнні былі знойдзены пасля вывучэння прац тысяч знакамітых навукоўцаў, якія доўга вывучалі гэтую праблему і нарэшце асвятлілі яе. Што вельмі ўзбагаціла чалавецтва.

**Маё** - тое, што належыць мне. Калі я магу ахапіць гэта і ўтрымаць.

**Медаль** - невялікі металічны дыск, які даецца чалавеку ў якасці ўзнагароды за заслугі і дасягненні. Больш-менш аўтэнтычны.

**Мір** - у міжнародных справах перыяд хлусні паміж двума перыядамі бойкі.

**Могілкі** - ізаляванае месца недалёка горада, дзе плакальшчыкі выказваюць фальшывыя пачуцці, паэты пішуць на заказу, а разьбяры малатком выкалочваюць з каменя грошы.

**Морг** - месца, дзе мерцвякі чакаюць студэнта-медыка.

**Мужчына** - істота недагледжанага полу. Для жанчын мужчына існуе ў двух варыянтах: добры здабыўца і кепскі здабыўца.

**Мяжа** - у палітычнай геаграфіі - уяўная лінія паміж дзвюма дзяржавамі, якая аддзяляе ўяўныя правы адной ад уяўных праваў другой.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

## СЕНТЭНЦЫІ

Адмаўляючыся ад свайго імя,
адмаўляешся і ад уласнага роду.

* * *

У час прызываючы розум,
пазбегнеш безвыходнасці.

* * *

Страх заўсёды бачыць больш.
Гэтым апраўдвае сваё існаванне.

**БАРЫС РУСКО**







*Малюнак В. Кліменкі*

## МІЖ НАМІ

### ПАГАВАРЫЛІ

Сустрэліся тры сяброўкі — дзве дзеўкі і адна маладзіца.

— Учора я была ў Асоўцы. Там ёсць такі прыгажун, але нейкі дурнаваты плятун. Паглядзець на яго можна, але больш нічога не варта пачынаць. Ну, а ў Асоўцы то музыка зноў не такі прыгожы, але загаварыць то ўмее да дзяўчыны... Ой, умее, з такім можна пайсці на канец свету... — уздыхнула Марта.

— А я якраз вярнулася з Сопату. Там то файна было. Пазнаёмілася з Артурам. Выдатны хлопец. Хадзілі мы штодзень па дыскатэках. Даў мне свой адрас. Пісаць адзін аднаму будзем, абяцалі. Мо ён мяне хутка наведае?.. — усміхнулася да сваіх думак Бася.

— А ведаеце, — уцешылася Тося, — мой Адась сам зрабіў кухонную мэблю! Учора мы яе паставілі, усё як трэба! Паўставіляла посуд, муку, цукар... Паставіла кветкі, так прыгожа дома стала...

### Я НЕ ПАМРУ!

У адной вёсцы жылі тры Аксені. Адна з іх — Аксеня „Канцавая", што жыла на канцы вёскі — памерла. Засталіся Аксеня Мікіціна і Дзямянава.

Прыйшла падвечар Аксеня Мікіціна да Дзямянавай і кажа:

— Хадзем, Ксюха, згаворым малітву па нашай аднайменніцы. Нас толькі дзве Аксені ў вёсцы засталіся. Мае сын і нявестка чакаюць, каб я памерла, а я — не! На злосць ім буду жыць, і ўсё!

Схапілася Аксеня пад бокі, спадніцаю замахнула, як якая балерына... і... упала.

Нарабіла Аксеня Дзямянава крыку. Збегліся людзі, патэлефанавалі па „хуткую"... Лекару засталося толькі сцвердзіць: інфаркт.

— Вось табе і на... Засталася я цяпер адна Аксеня ў вёсцы, — уздыхнула бабулька.

**АЎРОРА**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец выйграў вялікую суму ў латарэі і купіў піяніна. Аднойчы сусед бачыў, як ён вёз гэтае піяніна на тачцы.

— Што здарылася? Ты вяртаеш піяніна назад?

— Не, я еду браць свой першы ўрок.

* * *

Два рыбакі сядзяць на беразе.

— Уяўляеш, мне сёння ноччу прыснілася, што я сяджу на беразе ракі з Сафі Ларэн. Навокал — нікога...

— Ну і што далей?

— І быццам я злавіў акуня ў тры кілаграмы!

— А яна?

— А ў яе не клюе!

* * *

Прахожы — жабраку:

— Выбачайце, але я ніколі не даю грошай тым, хто жабруе на вуліцы.

— Гэта не аргумент. Мы можам пайсці ў кафэ.

* * *

Аратар манатонна чытае свой даклад. Раптам з апошняга рада нехта крыкнуў:

— Калі ласка, галасней!

— Выбачайце, джэнтльмены, — сказаў дакладчык, — я не думаў, што мяне хто-небудзь слухае.

* * *

У Луўры экскурсавод вядзе групу.

— А вось тут была спачывальня Людовіка XII, Людовіка XIII, Людовіка XIV, Людовіка XV...

Адзін чалавек з групы прыкмячае:

— Як жа цесна яны жылі: столькі чалавек у адным пакоі!

* * *

Аднойчы Бехтовен слухаў даволі ліхую оперу. Калі пасля спектакля кампазітар спытаў, што думае Бетховен пра яго творы, той адказаў:

— Ваша опера настолькі мне спадабалася, што я, напэўна, напішу да яе музыку.

* * *

— Прыняў бы вас на службу, але вы заікаецеся.

— Я, п-п-пане, не з-з-заўсёды, а толькі тады, калі гавару.

* * *

— І так, містэр Макферсан, вы сцвярджаеце, што ў вас укралі аўтамабіль і вы дакладна ведаеце, хто гэта зрабіў? — пытае паліцэйскі пацярпеўшага.

— Менавіта так, але давайце не будзем спяшацца з яго арыштам: хай ён спачатку перамалюе мой аўтамабіль.

Падборку зрабіў **ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**




Мілае Сэрцайка! Я перастала верыць у шчырасць сяброўкі. Не хачу больш ніводнай знаць і бачыць на вочы. А я ж так верыла ў прыязнь...

Яшчэ з сярэдняй школы я сябравала з дзяўчынай. Яна была маёй суседкай. Можа, каб не гэта суседства, дык і не былі б мы такімі сяброўкамі - у нас былі зусім іншыя характары, розныя зацікаўленні (а фактычна ніякіх зацікаўленняў з яе не заўважыла). Мая сяброўка не прапада за навукай, а мяне школа заўсёды цягнула да сябе. Калі я хадзіла катацца на каньках, яна стаяла збоку і толькі прыглядалася. Яна была тоўстая і непаваротлівая, але ўсюды хадзіла са мною за кампанію. Вакол мяне круцілася крыху хлопцаў, і яна з усмешкай як бы апрабавала гэта, не маючы за гэта нічога ўзамен, акрамя маёй прыязні. Мне здавалася, што больш адданага чалавека я ў сваім жыцці не знайду і верыла ёй як нікому.

Наша сяброўства пратрывала на працягу пяці гадоў маёй навукі ў вышэйшай школе. Сяброўка занялася гандлем. У яе было некалькі кіёскаў, у якіх яна не стаяла. Мела шмат грошай і нямала знаёмых. Праўда, ніхто не прасіў у яе рукі, але пайсці і паехаць заўсёды было куды і з кім.

Мы надалей прыязніліся, хаця штораз часцей мая сяброўка прабавала даказваць вышэйшасць свайго жыццёвага крэда над маёй гуманістычнай адукацыяй і яе вынікамі. Я тады адчувала сябе даволі няёмка.

У нашым невялікім горадзе паявіўся новы малады чалавек, які адразу прыцягнуў увагу ўсіх незамужніх жанчын. Штораз часцей можна было яго ўбачыць у кампаніі маёй сяброўкі. Смешная была з іх пара! Ён - прыгожы, як акцёр, яна - абвешаная біжутэрыяй бочачка. Відаць было, што яна закахана ў яго без памяці. Зрэшты, расказала мне, што правяла з ім нават адну незвычайную ноч. Неяк больш яна не хвалілася, але ў мяне і так было ўражанне, што гэтаму хлопцу проста прыемна бываць у кампаніі багатых людзей - яны яму імпанавалі.

Вясною мая багатая сяброўка наладзіла імяніны. Усё адбывалася ў агародзе каля яе дома. Было што піць, можна было самому пячы каўбаску і шашлык. Людзей сабралася шмат, але папраўдзе дык не было тут з кім нават пагаварыць. Адзінай цікавай асобай паказаўся мне "яе" хлопец. Пішу ў двукоссях, бо людзі ўжо пачалі з яе падсмейвацца: усе заўважылі, што не пара ён ёй. Калі гаспадыня была занята госцьмі, хлопец наблізіўся да мяне. Яго чорныя, пранікліва вочы прашылі мяне наскрозь. Па целе прайшлі дрыжыкі. Было ўжо цёмна, калі за невысокімі дрэўцамі мае губы зліліся з яго губамі.

Трэба прызнаць адразу, што хлопец на два франты не дзейнічаў. Пачаў сустракацца са мною, а да сяброўкі маёй калі заходзіў, дык як да знаёмай. І паставіў перад ёю справу ясна: кахае мяне! Можна было толькі здагадвацца, што дзеялася ў яе душы, але яна і віду не падавала, што зайздросціць: добра так, як ёсць; ёй дастаткова, што хлопец яе наведвае. А каханне? Гэта для яе не пытанне жыцця і смерці!

Мы на першы погляд надалей сябравалі і быццам нічога не змянілася ў нашых колішніх адносінах. Мая сяброўка ахвотна прымала нас у сябе, мы даволі часта выязджалі разам за горад, на экскурсіі. Я не падазравала нічога кепскага, а ў яе галоўцы клубіліся чорныя думкі.

У пачатку лета былі мае імяніны. Маці мая падрыхтавала прыём можа і не настолькі эксклюзіўны, як быў у гародчыку маёй сяброўкі, але ўсё было вельмі смачнае і з густам пададзена. Стол быў укветчаны, салаты таксама цвілі ружамі, а пасярэдзіне стала красаваўся, як жывы, фаршываваны шчупак. Я таксама запрасіла крыху людзей, а перш за ўсё, вядома, сваю найбліжэйшую сяброўку.

Якое ж было маё здзіўленне, калі я ўбачыла яе на парозе з незнаёмай дзяўчынай. Дзяўчына была метр семдзесят, тонкая як струна, з распушчанымі светлымі валасамі і блакітнымі, як неба, вачыма. Што мне было рабіць?! Вядома, запрасіла ў хату. Нейкім цудам блакітнавокая апынулася пры стале побач з маім каханым, і так ужо да канца яны варкавалі, як два галубкі.

У маім сэрцы нешта апала. Мне ўжо імяніны не былі імянінамі. І мае прадчуванні спраўдзіліся. Гэта быў канец нашага трохмесячнага кахання.

І цяпер, даражэнькае Сэрцайка, ці ж не маю я рацыі, што не хачу мець сябровак?!.

**Анна**

Анна! Твая сяброўка проста аддала табе належнае. Калі ты забрала ў яе гэтага хлопца, дык тваё сэрца ані крыху не скрушэла - бо ты была прыгожая, а тваёй сяброўцы ён не падыходзіў. Але гэта быў твой погляд на справу. Памятай, што кожная жанчына хоча быць жанчынай і хоча падабацца, хоча верыць у шчырасць пачуццяў мужчыны да яе. Ты звычайна падлажыла ёй свінню, залагоджваючы ўсё гэта ўсмешкамі і ўяўнай прыязню. А яна была дзеўкай не лыкам шытаю і адплаціла табе толькі тым самым. Дык хто тут найгоршы?.. А мо найгоршы - ён, калі так хутка змяняе свае ўпадабанні...

**СЭРЦАЙКА**